23 траўня 2020 | № 19 (678)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Палярны аншлюс**
Стар. 9

4 **ДАРУНАК НЯБЁСАЎ ДЛЯ МУДРЫХ ЛЮДЗЕЙ**

Ёрнічаць на тэму каронавіруса можна бясконца. Эпідэміі прыходзяць і сыходзяць, а праблемы, якія вызначаюць лёсы народаў, застаюцца

5–8



**ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ**

10 **ХТО ТАКІ МАРДЫХАЙ ШУЛЬКЕС?**

Днямі гісторык-архівіст Зміцер Дрозд апублікаваў сенсацыйныя звесткі: верагодна, устаноўлена асоба і знойдзены фота аднаго з двух дакладна вядомых расстраляных у Курапатах людзей — Мардыхая Шулькеса

11 **ЁН МОГ АПЫНУЦЦА Ў КУРАПАТАХ**

Нацыянальны ціск з боку польскіх уладаў, эканамічныя праблемы на «крэсах» прымушалі шматлікіх беларусаў папаўняць шыхты падпольнай КПЗБ ці бегчы ў СССР

# Што агульнага ў каронавіруса і «выбараў»?

## Розум нам дадзены для таго, каб мы самі маглі вызначаць сваю рэальнасць



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Пандэмія вырвала многіх час з жыцця. Мы аказаліся ў сітуацыі, калі шмат якія звычайныя, але такія не заўважныя раней радасці аказаліся недаступнымі.**

Перажываючы за тое, каб не прынесці вірус у свой дом і не падвергнуць небяспецы блізкіх, мы перасталі хадзіць у грамадскія месцы, нават паход у краму цяпер — выключная неабходнасць, а для некаторых — ледзь не адзіная магчымасць «выйсці ў свет». Як кажуць, дакаціліся.

Пагадзіцеся, без яскравых культурных падзей, сустрэч з сябрамі і блізкімі дый нават без традыцыйных выхадаў у любімую кавярню жыццё губляе свой смак.

А пачыналася самаізаляцыя (вядома, для тых, хто можа сабе яе дазволіць і не хадзіць штодня на працу) вельмі нават пазітыўна: з усіх бакоў даносіліся выказванні, маўляў, нарэшце будзе час заняцца спортам ці вывучыць замежную мову анлайн. Цікава, дзе цяпер тыя, хто планаваў шчыльна заняцца самаразвіццём? Пэўна, яны ёсць. Але значная частка тых, хто меў намер «пракачаць скілы» на каранціне, у лепшым выпадку, ледзь не штовечар публікуе ў сацсетках фотаздымкі з віном і піцай (спадарства, так і да алкагалізму з атлусценнем нядоўга!), у горшым — адчувае псіхалагічныя пакуты на тле перамены ладу жыцця.

Апошнім часам мы добраахвотна заганяем сябе яшчэ і ў нейкую ментальную ізаляцыю, чытаючы і распаўсюджваючы навіны, дзе адзінай тэмай, альтэрнатыўнай каронавірусу, сталі... выбары, якіх у Беларусі няма, але якім чамусьці надаецца столькі ўвагі, нібыта яны ёсць. Толькі ўдумайцеся: наш мозг атрымлівае інфармацыю альбо пра хваробу, альбо пра тое, чаго няма! Дзе ж тут захаваць здаровы глузд?

Так і хочацца сказаць: людзі, вяртайцеся ў рэальнасць! Вы ўжо паспелі паслухаць салаўёў гэтай вясной? А палюбавацца бурапенным квеценню вішань? А злавіць цёплы момант сярод гэтага халоднага траўня і паваляцца на сакавітым лужку сярод маргарытак, адчуць пах свежай травы? Сустрэць усход сонца?.. Памятаеце, як у вядомым савецкім мульціку казаў Паравозік з Рамашкава: «Калі мы не сустрэнем світанак, мы можам спазніцца на ўсё жыццё».

Як бы смешна і наіўна гэта ні гучала, але, калі пачынаеш разумець, як шмат у жыцці вартага нашай увагі, усё астатняе адыходзіць на другі план. Безумоўна, каронавірус, бясконцыя парады кандыдатаў і чалавек, што ўжо 26 гадоў незаконна ўтрымлівае ўладу ў краіне, — гэта таксама частка нашага жыцця. Як і смерць. Але калі б чалавецтва ўвесь свой век думала толькі пра смерць, ці застаўся б яму час на жыццё? Урэшце, розум нам дадзены для таго, каб мы самі маглі вызначаць сваю рэальнасць.

Так, у жыцці шмат праблем. І пра іх, безумоўна, трэба казаць. Але ці варта ставіць іх у цэнтр жыцця? Адказ станоўчы — у тым выпадку, калі мы можам нейкім чынам іх вырашыць.



Фота Максіма Куташава

**Часцей за ўсё, седзячы дома, мы проста забіваем час у інтэрнэце — і вось ужо не мы кіруем інфармацыяй, а інфармацыя — намі**

Часцей за ўсё, вымушана ці добраахвотна седзячы дома, мы проста забіваем час у інтэрнэце — і вось ужо не мы кіруем інфармацыяй, а інфармацыя — намі. Мы пішам і гаворым пра распаўсюджванне інфекцыі, хаванне рэальных лічбаў хворых і памерлых, адсутнасць сродкаў індывідуальнай абароны ў медыкаў, бяздзейнасць уладаў, рэпрэсіі ў дачыненні да актывістаў і журналістаў, таемныя намеры «кандыдатаў у кандыдаты»... Давайце шчыра сабе прызнаемся, што мы зрабілі для таго, каб нешта змяніць? Ці пайшлі ў валанцёры кампаніі ByCovid19? Ці ахвяруем грошы на дапамогу тым, хто мае ў ёй патрэбу? Ці падтрымліваем уразлівыя групы? Ці пішам скаргі і звароты — самі альбо разам з праваабаронцамі?..

Калі так — гэта выдатна, і варта працягваць гэта рабіць. Калі не — то дзеля чаго засмечваць эфір? Каб выплеснуць эмоцыі? Звярнуць на сябе ўвагу? Дык замест гэтага лепш адкласці ўбок свой тэлефон ці адысці ад камп'ютара і пайсці ў бліжэйшы парк падыхаць паветрам і паслухаць спевы салаўёў. І для фізічнага здароўя карысна, і для псіхікі.

А там, можа, падчас шпацыру ў ясную галаву прыйдзе геніяльная і простая ідэя дапамогі гэтаму свету ці асобна ўзятаму бліжняму.

# Без беларускамоўнай ВНУ школа і мова застануцца ў прыгнечаным стане

**У траўні 1929 года ў Вільні адбыўся нелегальны з'езд Таварыства беларускай школы. Праз дзевяноста з лішкам гадоў ТБШ працягвае сваю дзейнасць у спецыфічных умовах сучаснай Беларусі.**

Пра Таварыства беларускай школы і сучасную школу Беларусі «Радыё Рацыя» пагутарыла з грамадскім дзеячам, філолагам, перакладчыкам Лявонам Баршчэўскім.

***— Якое становішча Таварыства беларускай школы цяпер, і куды яно рухаецца ў сваім развіцці?***

— Рэч у тым, што Таварыства беларускай школы адроджанае, і яго ідэя саспела яшчэ ў той кароткі час дэмакратызацыі. Але, на жаль, калі прыйшлі да ажыццяўлення, у адрозненне ад Таварыства беларускай мовы, якое было раней, адраджалі яго ў час Лукашэнкі, і магчымасць дзейнасці стала мізэрнай. Калі б удалося яго адрадзіць у 1992 годзе, яно сыграла б куды большую ролю.

Фактычна, Таварыства беларускай школы было адроджанае пад кіраўніцтвам Генадзя Пятроўскага, былога намесніка міністра адукацыі, удзельнічалі і дырэктары, прымалі ўдзел яшчэ ў першым пасяджэнні. Але яго рэальная дзейнасць пачалася ў той час, калі ўсё беларускае падаўлялася, калі беларуская школа знішчалася. Таварыству заставалася толькі весці маніторынг таго, колькі знішчылі за чарговы год школ, прапаноўваць нейкія альтэрнатыўныя канцэпцыі і праграмы, нават падручнікі. Але гэтая ўлада ніколі не ўступала ні ў які дыялог з Таварыствам беларускай школы. Насуперак Канстытуцыі, насуперак законам, калі грамадскасць удзельнічае ў фарміраванні адукацыйнай палітыкі, улады ігнаравалі на 100 працэнтаў.

І на сёння, фактычна, ніводная прапанова непасрэдна ад Таварыства беларускай школы не была прынятая ўладамі. Бывала, што праз нейкіх пасярэднікаў выходзілі на нейкіх чыноўнікаў, а яны ўносілі ад свайго імя нейкія прапановы, — гэта дзесьці магло прайсці. Але, на жаль, улада цалкам ігнаруе трэці сектар. Ну, для вас гэта не навіна.

***— Ці можна сказаць, што паміж Таварыствам беларускай школы і ўладамі існуе хаця б мінімальны дыялог?***

— Фактычна, яго няма. Бывае, асобныя чыноўнікі ўдзельнічаюць у дыскусіях. Напрыклад, нядаўна быў круглы стол, прысвечаны сусветнаму маніторынгу ведаў, ТБШ арганізавала круглы стол, прыйшло некалькі шараговых чыноўнікаў, у тым ліку з Міністэрства адукацыі, нават выступалі, але фактычна на неафіцыйнай аснове. Ніякіх абавязкаў на сябе яны не маглі ўзяць — не таго ўзроўню. Яны паслухалі, паскардзіліся.

На чалавечым узроўні кантакт ёсць з кімсьці, але вось на афіцыйным яго няма. Міністэрства адукацыі робіць выгляд, што Таварыства беларускай школы не існуе.

***— Ці ёсць месца для беларускай мовы ў сучаснай адукацыі?***

— Няма ўніверсітэтаў, якія працуюць на беларускай мове. Цяпер жа сітуацыя іншая, не 60-я і 70-я гады, калі 15% школьнікаў ішлі вучыцца ва ўніверсітэты, астатнія ішлі працаваць, у тэхнікумы, прафесійныя вучэльні. Цяпер у нас 80% ідзе ў ВНУ.

Калі ў ВНУ няма адукацыі на беларускай мове, які сэнс бацькам дбаць пра тое, каб дзеці ў школе вучыліся на беларускай мове? Я ў курсе, як б'ецца ўжо тры гады ініцыятыўная група па стварэнні ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча. Да гэтай пары не вырашана пытанне, каб арганізаваць вучэбную дзейнасць, дазволу яны не маюць. Яны зарэгістраваныя як юрыдычная асоба, праводзяць нейкія спадарожныя мерапрыемствы, але на вучэбную дзейнасць ліцэнзіі ім не выдаюць. Шукаюць розных зачэпак. Маўляў, гэтая спецыяльнасць Беларусі не патрэбная. Дык гэта не ваша праблема. Гэта ж прыватная навучальная ўстанова. Яна вызначае, што трэба. А з міністэрства кажуць, гэтая спецыяльнасць не патрэбная — значыць, вы не маеце права яе адкрываць. Вось на такім узроўні адбываецца дыялог.

# «Не мае нічога агульнага з заканадаўствам»

Сяргей ПУЛЬША

**Калі адзін разочак адступіш ад літары закону — давядзецца адступаць яшчэ і яшчэ. І гэтыя крокі могуць прывесці ў такую багну... Хаця — пра што гэта я? Які ў Беларусі закон?**



Фота www.sputnik.by

Рэгістрацыя ініцыятыўных груп прэтэндэнтаў у прэзідэнты — яскравае таму пацвярджэнне. У Выбарчым кодэксе сказана гранічна зразумела — прэтэндэнт павінен прадставіць спісы сваёй ініцыятыўнай групы ў ЦВК асабіста. У 2015-м спадарыня Ярмошына не змагла адмовіць свайму патрону ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы, хаця спісы гэтай групы прынёс не ён, а, па даверанасці, кіраўнік яго выбарчага штабу. Сёлета ёй гэта адгукнулася.

ЦВК — не супраць прымаць дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўных груп па даверанасці. Аднак блогеру Ціханоўскаму ў рэгістрацыі групы было адмоўлена, — бо за яго ў дакументах у ЦВК распісалася жонка, на падставе той жа даверанасці. Такім чынам, атрымліваецца прававы казус: адна і тая ж даверанасць у розных органах улады мае розную моц і дзейнічае па-рознаму нават у адным і тым жа ведамстве. Напрыклад, паўсюль яна дазваляе «права подпісу», а ў ЦВК — чамусьці не. Прынесці дакументы ад імя чалавека можна, а распісацца за яго — ну ніяк.

Не дзіўна, што сітуацыю з блогерам Ціханоўскім каардынатар кампаніі «За сапраўдныя выбары», юрыст Уладзімір Лабковіч расцаніў фразай, вынесенай у загаловак. «Што да адмовы ў рэгістрацыі групы блогера Ціханоўскага, дык улады самі стварылі ўсе ўмовы, каб пазбавіць яго права на ўдзел у выбарах. Гэта выглядае на спецаперацыю па нейтралізацыі яго як удзельніка выбарчага працэсу. Гэта не мае нічога агульнага з заканадаўствам», — пракаментаваў праваабаронца.

Усяго на вышэйшую выбарчую пасаду прэтэндавалі 55 чалавек. 27 з іх былі «кандыдатамі пратэсту» ад Мікалая Статкевіча — яны вылучаліся дзеля таго, каб пад выглядам збору подпісаў мець легальную магчымасць для сустрэч з людзьмі. Але ўсіх іх амаль пагалоўна «выкасілі» — яны не былі зарэгістраваныя, бо, маўляў, «не прайшлі праверку подпісаў»: нібыта пры абтэлефаноўванні людзі адмаўляліся, што пагаджаліся ўвайсці ў ініцыятыўную групу.

Між іншым, калі некаторыя асобы, унесеныя ў спіс ініцыятыўнай групы, у працэсе праверкі заявілі, што не давалі згоду на ўваходжанне ў групу, — гэта не падстава для адмовы ў рэгістрацыі ўсёй групе. Крытэр рэгістрацыі толькі адзін: яна павінна складацца з не менш чым 100 чальцоў. Але ЦВК з-за «адмоўнікаў» пабачыў парушэнне прынцыпу добраахвотнасці, і групы не рэгістраваў. Што таксама выклікае ў таго ж Лабковіча неразуменне: «Калі група сфарміраваная з фармальнымі недахопамі, то ў гэтым бачыць парушэнне прынцыпу добраахвотнасці, а вось у тым, калі, напрыклад, студэнтаў з пагрозамі розных санкцый прымушаюць галасаваць датэрмінова, парушэнне прынцыпу добраахвотнага ўдзелу ў выбарах не бачыць».

Але нават і тут дзейнічалі «двайныя стандарты». Групу прадпрымальніцы Алены Ашыхмінай не зарэгістравалі, бо ў працэсе праверкі тры чалавекі заявілі, што не давалі згоды ўдзельнічаць у ёй. А ініцыятыўную групу лідара паган-метал-гурту «Znich» і майстра тату Алеся Таболіча — зарэгістравалі, нягледзячы на тое, што ў спісе было некалькі людзей з недакладнымі звесткамі.

Розніца ў тым, што Ашыхміну можна палічыць за «кандыдатку пратэсту», а Таболіча — не.

У выніку ад спісу «кандыдатаў пратэсту» застаўся адзін радыкальны апазіцыянер Уладзімір Няпомняшчых з Гомелю.

Рэгістрацыю прайшлі, у асноўным, асобы вядомыя і «цяжкавікі». Гэта сам Аляксандр Лукашэнка (канешне), Алег Гайдукевіч, старшыня партыі ЛДПБ; Юрый Ганцэвіч, фермер з Гомельскага раёна; Наталля Кісель, намесніца дырэктара прыватнага прадпрыемства з Мінску. Былі зарэгістраваныя ініцыятыўныя групы вопытных у падачы дакументаў апазіцыянераў і палітыкаў: выканаўцы абавязкаў старшыні АГП Мікалая Казлова, лідара Руху «За Свабоду» Юрыя Губарэвіча, хрысціянскай дэмакраткі Вольгі Кавальковай, сустаршыні «Гавары праўду!» Андрэя Дзмітрыева; экс-дэпутаткі Ганны Канапацкай і старшыні БСДГ Сяргея Чэрачаня.

Згаданая вышэй жонка Сяргея Ціханоўскага Святлана таксама зарэгістравала сваю ініцыятыўную групу. Пры гэтым Ярмошына ў яе запыталася, ці не з'яўляецца яна «спарынг-партнёрам свайго мужа». Па-мойму, нашая старшыня ЦВК прафан яшчэ і ў спорце.

Былі зарэгістраваныя ініцыятыўныя групы эксбанкіра Віктара Бабарыкі і экс-кіраўніка Парку высокіх тэхналогій Валерыя Цапкалы. Прычым у выніку ў Бабарыкі з 10 тысяч жадаючых увайсці ў яго ініцыятыўную групу засталося 8905 чалавек, а група Цапкалы разраслася з 555 да 884 чалавек.

Такім чынам, подпісы за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты будуць збіраць 15 ініцыятыўных груп. Хто сапраўды будзе збіраць, мы пабачым ужо ў гэтыя выходныя — з 21 траўня пачынаецца гэты этап электаральнай кампаніі.

# Іміджавы пралік

Анастасія ЗЕЛЯНКОВА

**Кадры з чарговага кароўніка, у які адправіўся ў пятніцу кіраўнік краіны, прымусілі задумацца над яго іміджам у гэтую выбарчую кампанію. Не тое, каб ён моцна змяніўся з моманту мінулай, але гэта якраз і ёсць галоўная праблема.**

Паглядзіце, чым займаецца Аляксандр Рыгоравіч апошнім часам. Ён ездзіць па прадпрыемствах і калгасах, кажа салодкія прамовы, даруе даўгі, захапляецца зробленым парадкам. Вось і цяпер адправіўся на адну з фермаў Віцебскага ААТ «Малако».

«Малайцы, відаць адразу. І галоўнае, што талкова, па тэхналогіі. Вось гэтым шляхам трэба ісці», — адзначыў Лукашэнка добрыя ўмовы ўтрымання буйной рагатай жывёлы, хаця яшчэ год таму ў іншай гаспадарцы зладзіў публічны разнос з-за «абаср@ных кароў».

Зразумела, што і салодкія прамовы, і ўзорныя каровы — гэта ўсё частка яго перадвыбарчай кампаніі. Вось толькі якую выснову павінны зрабіць з усяго гэтага выбаршчыкі? Што ў краіне кароў памылі?

Прычым, заўважце, зрабілі гэта выключна перад прэзідэнцкай кампаніяй, таму што яшчэ год таму ў гаспадарках, па сведчанні таго ж Аляксандра Рыгоравіча, быў поўны бардак, на прадпрыемствах «безгаспадарчасць», а каровы, прабачце, стаялі ў гноі. Выдатны, трэба сказаць, вынік 25-гадовай дзейнасці на пасадзе кіраўніка краіны!

Але справа нават не ў вымытых або брудных каровах. Справа ў прынцыпе ў каровах. Як вы думаеце, колькі сёння людзей хочуць чуць пра тое, як праходзіць працэс жыццядзейнасці рагатых?

Калі беларусаў хвалюе, як яны будуць выжываць самі, дзе ўзяць працу, каб пракарміць сям'ю і захаваць здароўе, ці многіх узрадуе, як «талкова, па тэхналогіях» утрымліваецца буйная рагатая жывёла? Лозунг «Я адмыў для вас усіх кароў» — відавочна не той, што мог бы зачапіць выбаршчыка, якому яшчэ нядаўна былі абяцаныя заробкі па 500 долараў, сотні тысяч працоўных месцаў і іншыя выгоды спакойнага і бяспечнага жыцця.

І гэта самы вялікі іміджавы пралік Лукашэнкі. Таму што ўсе яго сур'ёзныя патэнцыйныя праціўнікі на выбарах дакладна не скажуць нічога пра кароў, свіней і белых, «як снег», козачак. Яны будуць казаць пра новую Беларусь, пра лічбавыя і фінансавыя магчымасці, пра жаданне зрабіць краіну такой, у якой у першую чаргу будзе добра жыць людзям, а не буйной рагатай жывёле.

**Паводле gazetaby.com**

**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Напярэдадні навальніцы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пытанне, што задаў Аляксандр Лукашэнка датычна ўвядзення каранціну — «Жэрці што будзем?» — можа паўстаць у нас і без усялякага каранціну. «Беларуская эканамічная мадэль» імкліва коціцца да заняпаду. Да прэзідэнцкіх выбараў яе яшчэ патрымаюць, канешне. Але што будзе потым?**



Фота www.vesti.ru

Ужо цяпер нашы асноўныя эканамічныя паказчыкі ўражваюць са знакам «мінус». Белстат апрылюдніў новыя звесткі, паводле якіх ВУП Беларусі ў студзені-красавіку 2020 года ў бягучых цэнах склаў 41,1 мільярда рублёў і ўпаў на 1,3% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Прамысловая вытворчасць у красавіку 2020 года знізілася на 10,5% у адносінах да сакавіка гэтага года. Да аналагічнага перыяду мінулага года падзенне склала 3,8%.

Запасы гатовай прадукцыі ў прамысловасці на 1 траўня склалі 5,6002 мільярда рублёў, або 79,1% да сярэднямесячнага аб'ёму прамысловай вытворчасці. За красавік складскія запасы ўзраслі на 136 мільёнаў рублёў.

І вельмі крытычна абвалілася нашая «залатая рыбка»: экспарт прадукцыі нафтахімічных і хімічных прадпрыемстваў Беларусі па выніках I квартала 2020 года знізіўся на 55,8% (!) у параўнанні аналагічным перыядам мінулага года, паведаміла прэс-служба канцэрна «Белнафтахім». На экспарце нафтапрадуктаў мы зарабілі ўсяго $921,2 мільёна.

«Зніжэнне фізічных аб'ёмаў экспарту нафтапрадуктаў, падзенне каціровак на нафту маркі Urals, уцягванне ў перапрацоўку на НПЗ запланаванай на экспарт (здабытай у Беларусі) беларускай нафты і зніжэнне каціровак і экспартных коштаў на хімічную і нафтахімічную прадукцыю да 30% аказалі негатыўны ўплыў на паказчыкі знешняга гандлю», — назвала ведамства прычыны такога абвалу.

Вытворчасць на прадпрыемствах канцэрна ў I квартале ўпала 16,2%, а аб'ём перапрацоўкі нафты склаў 2,76 мільёна тон (мінус 40,6%).

На гэтым фоне — зніжэння прадукцыйнасці працы, працы прадпрыемстваў «на склад» і крытычнага падзення нафтахімічнага экспарту — у насельніцтва чароўным чынам растуць даходы. Як паведамляе той жа Нацыянальны статыстычны камітэт, рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Беларусі ў I квартале 2020 года выраслі на 7,1% адносна ўзроўню I квартала 2019 года.

Мы ўжо звярталі ўвагу на гэтую дзіўную тэндэнцыю — падае ВУП, падае вытворчасць, але даходы растуць. Гэта азначае, што дзяржава спрабуе напампаваць кішэні грамадзян незаробленымі грашыма.

Даўно заўважана, што незаробленыя грошы шчасця не прыносяць. Дый усё роўна «павышэнне наяўных грашовых даходаў» ад Белстату неяк не адчуваецца грамадзянамі краіны ў сваіх кішэнях, таму што цэны таксама растуць.

Эксперты даследчага цэнтра BIPART і праекта «Кошт Урада» ад сакавіка 2015 года складаюць індэкс «чаркі-скваркі». Гэты рэйтынг вылічваецца па прыкладзе «індэкса біг-маку», які з 1986 года займаецца часопіс The Economist, спрабуючы адлюстроўваць рэальны курс абмену валют у розных краінах па коштце гамбургераў. «Біг-макі», вядома, прадаюцца і ў Беларусі, аднак вызначаць пакупніцкую здольнасць беларускіх заробкаў лепш з дапамогай нечага нацыянальнага, вырашылі ў BIPART і ўзгадалі словы Лукашэнкі пра чарку і скварку.

Індэкс «чаркі-скваркі» складаецца з цаны 100 грамаў бескасцёвай свініны і 100 грамаў гарэлкі і разлічваецца штоквартальна на падставе даных Белстату. Аўтары індэкса сцвярджаюць, што з яго дапамогай можна вызначыць, наколькі абясцэніўся беларускі рубель, а таксама параўнаць даходы і выдаткі беларусаў і нашых суседзяў.

Дык вось, нягледзячы на той самы «рост даходаў», пакупніцкая здольнасць насельніцтва, аказваецца, падае. Па выніках I квартала гэтага года сярэдні кошт 100 грамаў гарэлкі і 100 грамаў свініны ў Беларусі склаў 2,65 рубля. Гэта рэкордны максімум. Да гэтага самая дарагая чарка-скварка была зафіксаваная ў 4-м квартале 2018 года — сярэдні кошт быў 2,63 рубля. Падаражанне чаркі і скваркі за апошні квартал абумоўлена пераважна ростам коштаў на гарэлку, адзначаюць аўтары даследавання.

Між тым, цэны на гарэлку ўсталёўвае дзяржава, і яна ж жорстка рэгулюе продаж гэтага віду прадукцыі. Што ў чарговы раз пацвярджае выснову, зробленую ў мінулым аглядзе — інфляцыю разганяе дзяржава. А што яшчэ рабіць, каб «ліквідаваць» тыя самыя выплачаныя, але не зробленыя грошы?

Можна было б спадзявацца, што ў нас ёсць нейкая «падушка бяспекі» і сябры, якія ў складаны час нам дапамогуць. Але насамрэч на такую дапамогу разлічваць не асабліва выпадае. Пацвярджэннем гэтага стаў саміт ЕАЭС, што прайшоў на тыдні ў фармаце відэаканферэнцыі. На ім Аляксандр Лукашэнка і Нікол Пашынян паспрабавалі «націснуць» на Уладзіміра Пуціна адносна коштаў на газ. «З канчатковым узаемапрымальным рашэннем мы не можам вызначыцца ўжо некалькі гадоў. Пры тым, што актуальнасць праблемы пастаянна ўзрастае», — жаліўся кіраўнік Беларусі. Крышачку раней, напярэдадні саміту, ён заўважаў, што кошт расійскага газу ў Еўропе складае 70 долараў за 1000 кубаметраў, у той час як беларускі кантракт вызначае цану ў 127 долараў.

«Ад мёртвага асла вам вушы альбо паглыбленая інтэграцыя», — прыкладна так коратка можна пераказаць адказ Пуціна беларускаму і армянскаму калегам. Калі пратакольнай мовай, то Пуцін заявіў, што адзіны тарыф на транзіт газу ў ЕАЭС не можа быць уведзены на цяперашнім узроўні інтэграцыі. «Што тычыцца прапанаванага нашымі армянскімі і беларускімі сябрамі адзінага тарыфу на паслугі па транспарціроўцы і транзіце газу, то мы лічым, што адзіны тарыф можа быць рэалізаваны толькі на адзіным рынку з адзіным бюджэтам і адзінай сістэмай падаткаабкладання. Такі глыбокі ўзровень інтэграцыі пакуль яшчэ не дасягнуты», — заявіў кіраўнік Расіі.

То-бок, Пуцін у чарговы раз заявіў, чаго ён хоча, а канкрэтна — уваходжання Беларусі (і, можа быць, нават і Арменіі) у склад Расійскай Федэрацыі. Бо адзінага бюджэту і адзінага падаткаабкладання няма нават у Еўрасаюзе.

Таму можна ў стотысячны раз паўтарыць — хопіць гуляцца ў розныя «інтэграцыі». Нічога добрага з гэтага не атрымаецца. А незалежнасць — яна даражэйшая за газ і нафту.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Юрый Зісер

**Памёр заснавальнік навінавага партала Беларусі TUT.BY. Чатыры гады ён змагаўся з ракам.**

Юрый Зісер нарадзіўся 28 чэрвеня 1960 года ў Львове. Скончыў Паўночна-заходні політэхнічны інстытут у Санкт-Пецярбургу па спецыяльнасці «электронныя вылічальныя машыны». Працаваў тэхнікам, затым інжынерам-праграмістам у Львоўскім політэхнічным інстытуце, на Львоўскім паштамце, на львоўскім заводзе «Біяфізпрыбор». У 1987 годзе пераехаў у Мінск.

З 1992 года быў дырэктарам і ўладальнікам «Надзейных праграмаў». Кампанія займалася распрацоўкай, укараненнем і суправаджэннем праграмнага забеспячэння электронных банкаўскіх тэхналогій. Пад эгідай «Надзейных праграмаў» у 2000 годзе быў створаны партал TUT.BY, а таксама рэгістратар даменных імёнаў і хостынг-правайдар hoster.by. З 25 лютага 2012 года «Надзейныя праграмы» з'яўляюцца тэхнічным адміністратарам нацыянальнай даменнай зоны .by, а з 2015 года — і кірылічнай даменнай зоны .бел.

Юрый Зісер таксама працаваў дацэнтам Белдзяржуніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, быў трэнерам у шэрагу беларускіх бізнес-школ, аўтар шэрагу навучальных дапаможнікаў і кнігі «Маркетынг on-line». У апошнія гады падтрымліваў сацыяльнае прадпрымальніцтва, у прыватнасці, конкурс сацыяльных праектаў SocialWeekend і дабрачынную пляцоўку Маесэнс.

У інтэрнэце з'явілася прапанова назваць адну з вуліц у Мінску ў гонар Юрыя Зісера.

Выказваем шчырыя спачуванні сям'і і сябрам Юрыя Анатольевіча.



## Піліп Шаўроў

**Грамадскі актывіст, якога судзілі па крымінальным артыкуле, у выніку атрымаў «адміністрацыйны» штраф.**

Нагадаем, 16–17 студзеня 2020 года Піліп Шаўроў нанёс фарбай невялікую адносна помніка выяву бел-чырвона-белага сцяга на гранітную частку памятнага знака загінуўшым супрацоўнікам МУС, а таксама расфарбаваў у чырвоны колер рукі помніку Пушкіну ў Мінску. Менавіта апошняя акцыя выклікала буйны грамадскі рэзананс. А 17–19 студзеня ён нанёс надпіс «1937» на плоце насоснай станцыі ў Бараўлянах.

18 сакавіка аддзелам Цэнтральнага раёна Мінска Следчага камітэта Шаўрову было прад'яўлена абвінавачванне ў здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных часткамі 1 і 2 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса — «хуліганства».

У выніку абвінавачванне адмовілася ад часткі 2 гэтага артыкула, па якой штраф не прадугледжаны. Шаўроў у апошнім слове прызнаў віну часткова і папрасіў прабачэння ў тых, каго маглі абразіць яго дзеянні. Варта зазначыць, што пракурор таксама прасіла пакараць Шаўрова штрафам, і суд пагадзіўся з пазіцыяй абвінавачвання.



## Сяргей Ціханоўскі

**Гомельскі блогер, які меў намер стаць кандыдатам у прэзідэнты, робіцца генератарам цікавых навінаў.**

Нагадаем, Ціханоўскі быў затрыманы 6 траўня і адбываў 15-сутачны адміністрацыйны арышт у ІЧУ Гомеля за акцыі пратэсту супраць «паглыбленай інтэграцыі» ўзімку. На волю ён павінен быў выйсці 21 траўня, але 18 траўня суд Савецкага раёна Гомеля асудзіў блогера на дадатковыя 15 сутак. Пра гэта паведаміў tut.by са спасылкай на канцылярыю суда. Пры гэтым у судзе адмовіліся сказаць, за якое менавіта праваапарушэнне Ціханоўскаму дадалі тэрмін арышту.

Раней Цэнтрвыбаркам адмовіўся рэгістраваць ініцыятыўную групу блогера па вылучэнні яго кандыдатам у прэзідэнты, спаслаўшыся на адсутнасць асабістага подпісу Ціханоўскага пад заявай на рэгістрацыю. А подпіс ён не змог паставіць, бо быў арыштаваны.

Аднак нечаканая 20 траўня ад блогера паступіла паведамленне, што ён — на волі. Яго вывезлі з ІЧУ і выкінулі ў Гомелі — нягледзячы на рашэнне суда аб новым арышце. Відавочна, улады вырашылі, што стаць кандыдатам у прэзідэнты ён ужо не паспее, а трымаць Ціханоўскага за «недаседжаныя 15 сутак» значна выгадней, чым у ізалятары.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Дарунак нябёсаў для мудрых людзей

**Нішто нас так не радуе, як гора таварыша. А што тады казаць пра гора ворага? Дык гэта ж іменіны сэрца!**




Чытаю на старонках самай саліднай газеты краіны: «Пандэмія выявіла тыя заганы палітычнага ладу ЕС, якія былі відавочныя і без усялякіх форс-мажораў: рыхласць і слабасць яго структуры кіравання, канкурэнцыя паміж нацыянальнымі і еўрапейскімі органамі ўлады. Аднак калі ў "мірны" час гэтыя недахопы можна было ігнараваць і адкладаць іх ліквідацыю ў доўгую скрыню, дык ва ўмовах крызісу яны могуць стаць фатальнымі».

Гэты букет заганаў пачалі заўважаць нават неспецыялісты на фоне поспехаў будаўніцтва Саюзнай дзяржавы. Апошні поспех (у чарзе, але не па значэнні) адзіны палітык (АП) абмеркаваў з прэм'ер-міністрам Сяргеем Румасам 14 траўня. Для тых, хто ўважліва не сочыць за інтэграцыйнай сагай двух брацкіх народаў, варта патлумачыць.

«Наша Расія» прадае газ у Еўропу па кошце $ 70 за 1000 кубаметраў, а аднаму з заснавальнікаў «Саюзнай дзяржавы» — за $ 127. І гэта ў год 75-годдзя Вялікай Перамогі!

Зразумець шчодрасць у дачыненні да Еўрасаюза нескладана. Ён і без каронавірусных форс-мажораў дыхаў на ладан, а прадажныя палітыкі сваімі спробамі стрымаць распаўсюджванне эпідэміі толькі пагоршылі сітуацыю. Вынік не прымусіў сябе доўга чакаць: мільёны людзей засталіся без сродкаў да існавання.

Іншая справа — Беларусь, чый курс чвэрць стагоддзя таму АП выбудаваў «ад жыцця»! Крыху свежай статыстыкі: «Рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Рэспублікі Беларусь у I квартале 2020 года склалі 107,1% да ўзроўню I квартала 2019 года».

І каму ў такім разе «наша Расія» павінна была падставіць плячо? Тым, хто сумняваецца ў правільнасці выбару ўсходняга суседа, патлумачу: датуючы Еўрасаюз, «Газпрам» тым самым падтрымлівае і беларускіх экспарцёраў.

Арыфметыка тут простая. У 2019 годзе Беларусь экспартавала тавараў на 32 936,5 мільёна долараў. Доля экспарту ў краіны Еўрасаюза склала 25,5% ($8 396,0 мільёна). Да жаданай трацiны дацягнуць не ўдалося, але і чацвёртая частка — варты павагі вынік. Цяпер зразумела: калі б «Газпрам» не падтрымаў еўрапейскіх небаракаў, беларускія экспарцёры пазбавіліся б чвэрці сваіх даходаў. Але гэта яшчэ паўбяды! Хаос у Еўропе спародзіць хвалю бежанцаў, і першай краінай, якая пацерпіць ад чарговага Вялікага перасялення народаў, будзе Беларусь. Ці нам гэта трэба?!

## Вопыт не падвёў

Ёрнічаць на тэму каронавіруса можна бясконца. Эпідэміі прыходзяць і сыходзяць, а праблемы, якія вызначаюць лёсы народаў, застаюцца. Яны фарміруюцца гадамі, калі не дзесяцігоддзямі. Адну з такіх праблем, дакладней, рэакцыю на яе, ілюструе табліца, складзеная з дапамогай пошукавіка самай саліднай газеты краіны.

Здавалася б, слова «патрыёт» і вытворныя ад яго павінны праходзіць па разрадзе вечных каштоўнасцяў. Дэвальвацыя ім не пагражае. Асобныя ўсплёскі магчымыя, бо палітычныя крызісы, здольныя перарасці ў баявыя супрацьстаянні, яшчэ ніхто не адмяняў. Таму і даводзіцца трымаць порах сухім.

На першы погляд, 2016 год нічым асаблівым беларусам не запомніўся. Аднак усплёск цікавасці штатных прапагандыстаў не быў выпадковым. Аналагічная гісторыя адбылася і са словамі «суверэнітэт» і «незалежнасць». Калі за перыяд 2001–2015-га артыкулы, якія змяшчаюць гэтую «салодкую парачку», публікаваліся ў «СБ. Беларусь сегодня» ў сярэднім 3 разы на год, то за 2016-ы такіх артыкулаў я налічыў 69! Далей панеслася: 2017 год — 126, 2018 год — 102 і 2019 год — 188.

Сярод афарыстычных выказванняў пісьменніка Салтыкова-Шчадрына ёсць і такое: «Нешта занадта на патрыятызм напірае, напэўна, пракраўся».

Што ж прымусіла напіраць на патрыятызм «залатыя пёры» самай саліднай газеты краіны? Зразумела, што не па ўласнай ініцыятыве яны, нібы афрыканскія грыфы, накінуліся на асваенне святых для беларусаў слоў.

Вопыт — сын памылак цяжкіх — мне падказаў, што артыкулы, якія змяшчаюць словы з коранем «патрыёт», да 2016 года павінны былі размяркоўвацца нераўнамерна. Вопыт мяне не падвёў. Не, я не валодаю талентам прафесійных варажбітак, папросту раней ужо даводзілася рабіць аналагічныя падлікі са словамі «суверэнітэт» і «незалежнасць».

За студзень-травень такіх артыкулаў было ўсяго 6, а за астатнія сем месяцаў — аж 106! Якая ж навала напаткала беларусаў у чэрвені?

## Дзякуй Уладзіміру Салаўёву

Імя гэтай навале — «Усебеларускі народны сход». У 2016 годзе ён быў пятым па ліку. Але, у адрозненне ад папярэдніх, упершыню народнаму сходу не наканавана было стаць фінальным акордам прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Чацвёртая пяцігодка з трэскам правалілася. Ва ўмовах новай рэальнасці лагічна было лішні раз не нагадваць пра гэта электарату, таму правядзенне «Усебеларускага народнага сходу» было перанесена на год.

Ідэалагічная праца не цярпіць пустаты. Нездарма ж амерыканскі лінгвіст Ноам Холмскі яшчэ ў мінулым стагоддзі прапанаваў 10 спосабаў кіравання грамадскай думкай. «Адцягненне ўвагі» займае ў яго спісе ганаровае першае месца.

Цытую па кнізе «Ціхая зброя для спакойных войнаў»: «Пастаянна адцягвацца ўвагу грамадзян ад сапраўдных сацыяльных праблем, пераключаць яе на тэмы, якія не маюць рэальнага значэння. Дамагацца таго, каб грамадзяне пастаянна былі чымсьці занятыя, і ў іх не заставалася часу на разважанні; з поля — у загон, як і ўсе іншыя жывёлы».

Пасля «Крымнаш» і вайны на ўсходзе Украіны знайсці тэму для адцягнення ўвагі беларусаў было не вельмі складана. Ужо ў віншаванні АП з надыходам новага 2015 года праблема захавання міру стала цэнтральнай: «Ад расколу грамадства — адзін крок да ўсеагульнай нянавісці. А ад яе — адзін крок да вайны. І калі людзі забываюць пра каштоўнасці міру і згоды, то ўсе гэтыя тры крокі яны робяць у адно імгненне».

Так незаўважна цішком адбылася падмена ранейшага сацыяльнага кантракту «лаяльнасць у абмен на рост даходаў» на новы кантракт — «лаяльнасць у абмен на выжыванне».

У год пятых прэзідэнцкіх выбараў новы кантракт спрацаваў. Тэлевізар перамог халадзільнік. Не без дапамогі расійскіх прафесіяналаў. Дзякуй Уладзіміру Салаўёву. Сваю вілу на беразе італьянскага возера Кома ён зарабіў «ў поце твару свайго». Пытанняў на гэты конт да яго няма і быць не можа.

Паспяховы абмен лаяльнасці на выжыванне магчымы толькі ва ўмовах надзвычайнага становішча. У 2015 годзе рэальныя грашовыя даходы беларусаў скараціліся на 6%, а ў 2016 годзе — на 7%. Аднак у пытаннях утрымання ўлады палітычны клас Беларусі здольны даць фору ўсім сваім калегам на еўрапейскім кантыненце. Таму і не стаў пяты «Усебеларускі сход» прахадным. Ён даў старт новай палітычнай парадыгме (ад грэчаскага παράδειγμα — узор, прыклад, мадэль), якой АП прытрымліваецца да гэтага часу.

## Дзякуй таварышу Сі

Адштурхнуўшыся ад дна ў 2016-м, рост рэальных грашовых даходаў беларусаў працягнуўся: у 2017 годзе — на 3%, у 2018 годзе — на 8%, у 2019 годзе — на 6% і за першы квартал 2020 года — на 7,1%.

Атракцыён нечуванай шчодрасці! Бяда прыйшла, адкуль не чакалі. Зрэшты, яна заўсёды так прыходзіць. Кітайскі таварыш Сі Цзіньпін дапамог.

У 2016 годзе правал пяцігадовага плана з трыбуны «ўсенароднага веча» быў растлумачаны неспрыяльнымі знешнімі фактарамі: «...на вашых вачах упаў валавы ўнутраны прадукт у Еўрасаюзе. Знізіліся тэмпы развіцця эканомікі нашага асноўнага партнёра — Расіі. Гэта істотна абмежавала магчымасці Беларусі нарошчваць аб'ёмы экспарту і вытворчасці. У гэтым асноўная прычына адставання ў выкананні прагнозных паказчыкаў».

Эпідэмія каронавіруса — дарунак нябёсаў, а ў краіне, населенай мудрымі людзьмі, гэты бонус ад нечаканага дарунку можна смела памнажаць на два. Не верыце? Тады дазволю сабе яшчэ адну цытату з таго ж лёсавызначальнага дакумента: «Беларусы — людзі мудрыя, яны выдатна бачаць, што адбываецца ў свеце, разумеюць сапраўдныя прычыны і цяжкасці. І разумеюць, што ў цяперашніх умовах самыя галоўныя, самыя дарагія нашы каштоўнасці — гэта мір у краіне, незалежнасць, бяспека кожнага. Будзе гэта — усе астатнія праблемы мы вырашым».

Гэта на этапе росту эканомікі размовы пра праблемы беларускай мадэлі можна было замяніць навінамі спорту, шоу-бізнесу, містыкі, ходу пасяўных і ўборачных. Масавы чалавек на такога кшталту навіны актыўна рэагуе. Толькі паспявай нажывуляць і закідваць вуду.

Але да лета 2016 года спецыялістам па кіраванні (маніпуляванні) грамадскай думкай стала канчаткова зразумела, што на такім інфармацыйным дробнатэм'і рэйтынг АП не ўтрымаць. Давялося задзейнічаць «цяжкую артылерыю» — незалежнасць, суверэнітэт, патрыятызм. Актуальнасць абстрэлаў з тых часоў не знізілася. Але жыццё не стаіць на месцы. Да гэтага спісу дадаўся каронавірус.

**ДЫНАМІКА КОЛЬКАСЦІ АРТЫКУЛАЎ, ЯКІЯ ЗМЯШЧАЮЦЬ СЛОВЫ З КОРАНЕМ «ПАТРЫЁТ», У ГАЗЕЦЕ «СБ. БЕЛАРУСЬ СЕГОДНЯ»**

| 2002 | 2003 | 2004 | 2005 | 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 | 2011 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 6 | 15 | 4 | 11 | 6 | 12 | 20 | 32 |
| **2012** | **2003** | **2014** | **2015** | **2016** | **2017** | **2018** | **2019** | **2020*** | |
| 21 | 22 | 15 | 6 | 112 | 142 | 139 | 178 | 61 | |

* З 01.01 да 14.05.2020

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by



# Яблычная незалежнасць

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**При канцы зімы Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю ўхваліла рэкамендацыі па забеспячэнні выканання палажэнняў Дактрыны нацыянальнай харчовай бяспекі Беларусі. Харчовая незалежнасць ацэньваецца паводле 10 групаў прадуктаў — у тым ліку, паводле аб'ёмаў вырошчвання і перапрацоўкі садавіны і ягадаў. «Новы Час» высветліў, ці хапае нам сваёй садавіны, чаму беларускіх яблыкаў мала ў крамах і яны даражэйшыя за польскія?**



Фота www.rgazeta.by

## Смачная дактрына

Харчовая бяспека дзяржавы ацэньваецца па некалькіх узроўнях. Аптымістычны — дастатковы для забеспячэння патрэбаў унутранага рынка за кошт уласнай вытворчасці на 80–85%, імпарту — 15–20%. Недастатковы — узровень вытворчасці, які забяспечвае патрэбу ўнутранага рынка больш як на 60%, але менш чым на 80%. І ніжэй за недастатковы — крытычны, калі настае аслабленне эканамічнай бяспекі. Паводле эканамістаў, забеспячэнне нацыянальнай харчовай бяспекі Беларусі звязана з уздзеяннем знешніх і ўнутраных чыннікаў ды пагрозаў. Вонкавыя пагрозы — наступствы стану макраэканомікі і адкрытасці нацыянальнай эканомікі, у тым ліку змяненні кан'юнктуры сусветнага рынку (рост коштаў або зніжэнне аб'ёмаў прапановы), а таксама імпарт харчавання, які не адпавядае патрабаванням высокай якасці і здаровага харчавання. Унутраныя фактары — апярэджанне росту коштаў на спажывецкія тавары павышэння даходаў насельніцтва.

Дактрына нацыянальнай харчовай бяспекі Беларусі прадугледжвае зніжэнне долі харчовых тавараў замежнай вытворчасці ў аб'ёме продажаў у арганізацыях гандлю да 15% у 2020 годзе і да 14% — да 2030 года. Цяпер сітуацыя такая: па выніках мінулага 2019 года доля імпартаванага харчавання ў беларускіх гандлёвых кропках склала 22,5%. Але доля асобных прадуктаў, што завозяцца ў Беларусь, застаецца ў раздробавым гандлі вельмі высокай. І лідзіруюць тут якраз садавіна з ягадамі — 91,6%! Лічба ўражвае. Але гэта менавіта крамная рэчаіснасць. Агулам узровень харчовай самазабяспечанасці нашай краіны па пазіцыі «Садавіна і ягады» больш салідны, хаця і крытычны.

Варта здзяйсняць захады, каб крамны садавінна-ягадны асартымент быў больш прадстаўлены тым, што вырошчваецца ў нашай краіне. Вось што прапануе Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. Рэкамендавана забяспечыць размяшчэнне і выкладку беларускай прадукцыі ў візуальна і фізічна дасяжных месцах, а таксама абазначаць такія месцы спецыяльным надпісам «Зроблена ў Беларусі». Пры фарміраванні раздробавых коштаў кіравацца гранічнымі максімальнымі ўзроўнямі гандлёвых надбавак на сацыяльна значныя тавары на 2020 год. Сярод гэтых тавараў фігуруюць яблыкі. Для іх найвышэйшы памер гандлёвай надбаўкі — 30%. Павінен быць адзіны падыход да фарміравання адпускных коштаў на аналагічную прадукцыю пры пастаўках на ўнутраны рынак і ў дзяржавы Еўразійскага эканамічнага саюза.

Апрача таго, МАРГ практыкуе абавязванне гандлёвых суб'ектаў мець у асартыменце пэўную колькасць гатункаў беларускіх яблыкаў. Але пакупнікам часцяком прапануюцца прывазныя яблыкі. Прычым іх цэннік — меншы за беларускую прадукцыю. Чыноўнікі з галіны гандлю так тлумачаць гэтую сітуацыю: маўляў, розніца ў коштах, часам істотная, утвараецца тады, калі на адным прылаўку ляжаць свежыя беларускія яблыкі і, скажам, польскія ўраджаю мінулага года. Адпаведна, яны таннейшыя.

## «Хімія» для яблыкаў

Падаўжаць тэрмін захоўвання спосабаў хапае. Напрыклад, яблыкі ляжаць у адмысловых сховішчах, апрацоўваюцца ад усыхання і грыбкоў кансервантамі, антыакісляльнікамі, ахоўнымі газамі, глазуравальнікамі.

**Бананы ды іншая садавіна, якая не расце ў Беларусі, і павінна прадавацца ў нашых крамах. Ну а яблыкі з грушамі — грэх завозіць. Прынамсі, у такіх колькасцях, як гэта ёсць цяпер**

Вы бачылі і куплялі такія яблыкі — ліпкія на вобмацак.

Яблыкі, якія доўга ляжаць, губляюць частку вітамінаў. Карыснасць яблык — доўгая гаворка. Для прыкладу скажам, што ў паўдзясятку зярнятак — суткавая патрэба чалавека ў ёдзе. А вось парада ад адмыслоўцаў і для здароўя, і для эканоміі: яблыкі малых і сярэдніх памераў больш каштоўныя, чым буйныя плады. Таму што ў кожным плодзе незалежна ад яго памеру прыкладна аднолькавая канцэнтрацыя карысных рэчываў. Груба кажучы, вялікія яблыкі «вадзяністыя».

Ужо цягам двух дзясяткаў гадоў у выдатках беларускіх сем'яў на харчаванне садавіна і ягады займаюць стабільныя 2,4–2,7%. Гэта прыкладна стольскі, колькі грошай трацiцца на грамадскае харчаванне і крыху менш, чым на алкаголь ды тытунь. Агульны гадавы аб'ём спажывання садавіны, ягадаў і прадуктаў іх перапрацоўкі на душу насельніцтва, паводле Белстату, быў з 2014-га па 2018-ы адпаведна 76, 79, 90, 89 і 92 кілаграмы.

А вось у сем'ях, што маюць дзяцей да 16 гадоў, ядуць толькі 58 кілаграмаў садавіны і ягадаў на кожнага на год. Дарэчы, чым больш дзяцей у сям'і, тым гэты паказчык меншы. У сем'ях з адным дзіцем — 62, з двума — 55, з трыма і болей — 42. Па гародніне, дарэчы, сітуацыя такая самая — 71, 62 і 53 кілаграмы на сям'ю ў залежнасці ад колькасці дзяцей у ёй. Тое самае па рыбе. Зрэшты, і па іншых катэгорыях прадуктаў. Адметна, што адваротная сітуацыя толькі па таннай бульбе. Заканамернасць па даступнасці паўнавартаснага здаровага харчавання відавочная.

Між тым, рацыянальныя нормы спажывання садавіны і ягадаў, якія падае Навукова-практычны цэнтр па харчаванні Акадэміі навук для дзяцей і падлеткаў, значна вышэйшыя. Хлопцы і дзяўчаты ва ўзросце 11–16 гадоў павінны іх есці па 125 кілаграмаў на год. Дзеці, якім ад 4 да 10 гадоў, мусяць спажываць 93 кілаграмы. Нарэшце, малеча 1–3 гадоў павінна мець у гадавым рацыёне 76 кілаграмаў садавіны і ягад.

## Каронавірусам — па бананах

Добра, што дзеці ядуць садавіну не толькі дома, але таксама ў школах і садках. У згаданым НПЦ па харчаванні праводзілі апытанне, каб высветліць стаўленне бацькоў, вучняў і настаўнікаў да арганізацыі школьнага харчавання. Асноўныя пажаданні бацькоў датычна меню былі наступныя: разнастаіць яго, замяніўшы каўбасныя вырабы на стравы з натуральных мясных прадуктаў, выключыць мучныя вырабы, чыпсы і газаваныя напоі і дадаць болей садавіны, салатаў з гародніны і сокаў. Прадказальна высветлілася, што ў садавінным рацыёне апытаных пераважаюць яблыкі (спажыванне 2–6 разоў на тыдзень) ды цытрусавыя. Натуральныя сокі з садавіны п'юцца 3–4 разы на месяц. Між тым, паводле дадзеных па імпарце садавіны, беларусы багата ядуць бананаў. Дарэчы, у апошнія месяцы па ўсім свеце спажыванне бананаў зменшылася. Маўляў, праз іх можа распаўсюджвацца каронавірус.

Гэта ўсё — панічныя чуткі, таму не ігнаруйце бананы, калі яны вам даспадобы. Якраз бананы ды іншая садавіна, якая не расце ў Беларусі, і павінна прадавацца ў нашых крамах. Ну а яблыкі з грушамі — грэх завозіць. Прынамсі, у такіх колькасцях, як гэта ёсць цяпер. Іншая справа, што селекцыянерам і пладаводам варта папрацаваць над разнастайнасцю і ўраджайнасцю канкурэнтных гатункаў. Тады і ў крамах імпартаванай садавіны будзе менш, і ўзровень самазабеспячэння ёй вырасце. Хаця, напрыклад, у 2018 годзе, дзякуючы выдатнаму ўраджаю, ён склаў салідныя 80%. У папярэднія гады вагаўся ад 43% да 63%. Натуральна, што многія беларусы рознай садавінай (ад яблыкаў да малінаў, у свежым выглядзе і ў «закатках») цалкам ці амаль цалкам забяспечваюць сябе самі.

Таму вышэй мы і адзначылі, што агромністая доля імпартаванай садавіны ў крамах — толькі на першы погляд трывожная статыстыка, якая, сярод іншага, на сумленні рытэйлу.

# Садаводаў чакае кіслы год

Павел КІРЫЛАЎ

**Пакуль многія з нас набываюць у крамах польскія ды нідэрландскія яблыкі, беларускія з задавальненнем купляюць нашы ўсходнія суседзі. Што праўда, час ад часу расіяне на мяжы ловяць фуры з садавінай без адпаведных дакументаў і пускаюць яе пад бульдозеры. А год таму наогул разгарнулася сапраўдная пладовая вайна, калі экспарт беларускіх яблыкаў ды груш падпаў пад забарону. Сёлета спакойна, але, згодна з прагнозамі, бліжэйшымі гадамі пастаўкі ў Расію беларускай садавіны скароцяцца і без экспартных табу.**

### Садавінавая вайна

Федэральная служба па ветэрынарным і фітасанітарным наглядзе Расіі (Рассельгаснагляд) забараніла ўвоз яблык і груш з Беларусі ў красавіку 2019 года. Такое рашэнне было прынята пасля таго, як на беларуска-расійскай мяжы было затрымана больш за сотню машын з яблыкамі і грушамі або без неабходных суправаджальных дакументаў, або з сертыфікатамі пра беларускае паходжанне, у якое Рассельгаснагляд не паверыў. Бо, як сказаў кіраўнік гэтага ведамства Сяргей Данкверт, «беларускія калегі нам заяўлялі, што айчынныя яблыкі і грушы ў іх скончыліся яшчэ ў лютым».

Яшчэ да гэтага праз свае падазрэнні Рассельгаснагляд абмежаваў пастаўкі праз Беларусь раслiннай прадукцыі з 33 краін Азіі ды Афрыкі (Індыі, Іарданіі, Конга, Малаві, Мазамбіку, Камеруну, Самалі, Нігерыі, Малі, Уганды, Пакістану, Судану, Непалу, Мадагаскару, Замбіі ды іншых). Быў дазволены толькі прамы ўвоз адтуль праз пункты пропуску, размешчаныя на расійскім участку знешняй мяжы Еўразійскага эканамічнага саюза. І, маўляў, адразу садавіна, нібыта выпрадукаваная ў згаданых краінах, перастала паступаць на тэрыторыю Расіі. Гэта стала доказам, што наша краіна экспартавала ў Расію прадукцыю з тых краінаў, якая падпала пад эмбарга (з Еўразіі, Турцыі, Украіны). То-бок, «санкцыёнку».

Рассельгаснагляд заявіў, што мае ўсе падставы меркаваць, што наша краіна «сертыфікуе санкцыйную прадукцыю пад выглядам беларускай». Таму, паколькі расійскія фітасанітары не мелі актуальнай інфармацыі пра беларускія прадпрыемствы-вытворцы, аб'ёмы вытворчасці і захоўвання, а таксама ўлічваючы «факт падабенства прадукцыі, якая пастаўляецца з Беларусі, да санкцыйнай», з 12 красавіка 2019 года і былі ўведзены абмежаванні на пастаўкі яблык і груш. Праўда, часова, да «ўрэгулявання сітуацыі».

Развязаўся канфлікт ужо напрыканцы ліпеня. На шчасце нашых пладаводаў, акурат да сезону. Дазвол на экспарт быў дадзены пад гарантыі Галоўнай дзяржаўнай інспекцыі па насенняводстве, каранціне і абароне раслін Беларусі пасля таго, як інспектары Рассельгаснагляду вывучылі нашы вытворчыя магутнасці на прадпрыемствах па вырошчванні яблык. Была ацэнена праца 51 прадпрыемства і атрымана інфармацыя пра плошчы садоў, іх гатункавы склад і ўраджайнасць, а таксама пра наяўнасць фруктасховішчаў і тэрміны захоўвання беларускіх яблык. А некаторыя гатункі, дарэчы, могуць захоўвацца без хімічных апрацовак 4–6 месяцаў.

### Раздзяўбалі яблыкі і грушы

Між тым, і сёлета ў зводках Рассельгаснагляду паведамляецца пра затрыманні на мяжы беларускіх фураў з садавінай — за тое, што яна пастаўляюцца без належных дакументаў. Кантрабандай. Такая прадукцыя не канфіскуецца, а знішчаецца на спецыяльных палігонах. Папросту раструшчваецца бульдозерамі. У Расіі не спыняюцца дыскусіі наконт таго, ці варта гэта рабіць, у той час калі значная частка насельніцтва жыве ў беднасці. Гучаць прапановы раздаваць харчаванне (і не толькі кантрабандную садавіну) людзям.

Якія аргументы «за» і «супраць» знішчэння «незаконнай» ежы? Тыя, хто выступае за ўтылізацыю, кажуць так: калі «санкцыёнку» не знішчаць, то пачнуцца злоўжыванні, карупцыя. Замест ліквідацыйных палігонаў харчаванне паедзе не да бедных сем'яў, а апынецца па шэрых схемах на крамных прылаўках па дэмпінгавых коштах. Такім чынам створыцца несумленная канкурэнцыя з мясцовымі вытворцамі. Яшчэ адзін аргумент — клопат пра бяспеку грамадзян. Паколькі санкцыйная ежа патрапляе ў Расію па сфальсіфікаваных дакументах, то пра яе няма праўдзівай інфармацыі: невядома, як яна захоўвалася, перавозілася, ці бяспечная для здароўя? Дабрачынныя фонды хацелі б раздаваць «санкцыёнку», але яны не могуць пацягнуць неабходныя экспертызы канфіскаваных партый харчавання.

Пазіцыя «супраць» палягае ў тым, што гэта павінна ўзяць на сябе дзяржава: правядзенне праверак на дабраякаснасць абыдзецца танней, чым утылізацыя. Але, па ўсім, знішчэнне «санкцыёнкі» патрэбна расійскім уладам у ідэалагічных мэтах.

Калі ў 2018 годзе Беларусь экспартавала 82 тысячы тонаў свежых яблык і крыху меней груш, то ў 2019-м — толькі 54 тоны. Асноўны кірунак — Расія. А прычына скарачэння аб'ёмаў паставак — не ў строгім стаўленні да беларускай прадукцыі праз кантрабандныя пастаўкі, а ў тым, што нашы суседзі ўсур'ёз узяліся за развіццё садаводства. За апошнія пяць гадоў там за-

# Ператворымся ў кавуновы

Павел КІРЫЛАЎ

**Травень — час, калі квітнеюць сады. У Беларусі гэта перадусім яблыні. Яблыкі — самая хадавая садавіна ў нас. Яны складаюць па вазе больш за 90% ад усёй пладоваягаднай прадукцыі. Калі бульба — другі хлеб беларусаў, то яблыкі можна лічыць трэцім.**



**На поўдні Беларусі ўжо даўно перасталі быць экзотыкай бахчавыя. Летась толькі сельгасарганізацыі нашай краіны вырасцілі 700 тонаў кавуноў. Беларускія кавуны рэкламуюць як чысты прадукт з вельмі нізкім утрыманнем нітратаў і з больш высокім узроўнем цукраў**

Па травеньскай квецені ў нашых садах спрагназаваць ураджай пакуль немагчыма. Калі ён не змізарнее праз замаразкі, то шмат што ў руках гаспадара. Для шчодрага ўраджаю трэба правесці ад чатырох апрацовак дрэваў самымі рознымі прэпаратамі. Вясна ўвогуле вымагае багата розных працаў у садах і на ягадным кустоўі. Вось што раіць-нагадвае рабіць Інстытут пладаводства ягаднікавым і пладаводчым гаспадаркам. Хоць большасць працаў ужо зроблена, бо сёлета праз анамальна цёплы пачатак года давялося займацца імі раней за звычайны час, але тое-сёе зацеміць будзе карысна на будучыню, у тым ліку дачнікам.

### Яблыневыя сакрэты

Самае першае — абразанне дрэваў і кустоў да распускання пупышак і зразанне галля. У першую чаргу такім чынам даглядаюць агрэст і парэчку, якія вызначаюцца раннімі тэрмінамі ўступлення ў вегетацыю. З суніцаў, напрыклад, трэба сарваць старое і хворае лісце. І спаліць, каб знішчыць перазімаваўшых на іх узбуджальнікаў розных інфекцый. На дрэвах залечваюць раны і трэшчыны на кары: іх чысцяць, дэзінфіцыруюць і замазваюць. Дрэвы досыць часта, як людзі, пакутуюць на рак. Гэтая зараза якраз патрапляе ў садовыя і не толькі дрэвы праз пашкоджанні кары. Таму пасля абрэзкі раны на дрэве абавязкова трэба закрываць. З цягам часу праз рак у яблыках меншае вітамінаў, псуецца іх смак, затым галіны папросту ўсыхаюць.

На абшарах, дзе плануецца закладка садоў ды ягаднікаў, адмысловым чынам падрыхтоўваецца глеба. На існых пасадках робіцца культывацыя міжрадддзяў дзеля закрыцця вільгаці з адначасным унясеннем угнаенняў. Дадаткова для захавання вільгаці можна выкарыстаць такі землеробскі прыём, як мульчыраванне прыкустоўнай паласы — пакрыццё глебы нейкім рыхлым матэрыялам. Напрыклад, саломай альбо пілавіннем. Для барацьбы з раслiннымі хваробамі ды шкоднікамі ўносяцца ў прыкустоўную паласу глебавыя гербіцыды.

Дымленне і дажджаванне — самыя распаўсюджаныя спосабы, якія раяць для абароны садоў і ягаднікаў ад замаразкаў адмыслоўцы ў галіне пладаводства. Для штучнага дымлення выкарыстоўваюцца дымавыя шашкі і аэразольныя агрэгаты. Можна раскласці вогнішча — так, каб яно тлела і дыміла. Мэта — стварыць цёплую дымавую заслону. Бывае, для гэтай мэты выкарыстоўваюць трактар з пераабсталяванай паліўнай



**Чакаецца абвал сусветных коштаў на садавіну, і садаводам не пазайздросціш. Яблыкі нават самай высокай якасці будзе вельмі складана прадаць. Збор ураджаю можа не акупіцца продажам. Значная частка яблыкаў папросту згніе**

кладзена 70 тысяч гектараў новых садоў і гадавальнікаў. У наступныя пяць гадоў яны з'явяцца яшчэ на 55 тысячах гектараў. Для параўнання, у Беларусі паводле Дзяржаўнай праграмы развіцця аграбізнесу штогод адбываецца закладка 500 гектараў садоў.

У 2024 годзе ў Расіі плануецца сабраць толькі сельгасарганізацыях 2,1 мільёна тонаў садавіны. Гэта ўтрая болей, чым у 2017-м, — 700 тысяч тонаў.

Адпаведна, апошнімі гадамі ў Расіі расце вытворчасць тых самых яблыкаў і скарачаецца іх імпарт — летась на 80 тысяч тонаў. Паводле прагнозаў, яблычны імпарт з Беларусі працягне змяншацца і ў 2020 годзе. Пры гэтым зніжаюцца экспартныя кошты. Сусветны рынак яблыкаў апошнімі гадамі перажывае стагнацыю. Вытворчасць расце, нарошчваюць уласную таксама краіны-імпарцёры, а спажыванне гэтага віду садавіны скарачаецца праз цікавасць да ягад і экзатычных фруктаў.

### Каронавірус згнаіць ураджай?

А ў 2020 годзе праз каронавірус і падзенне коштаў на нафту, па прагнозах сельскагаспадарчых экспертаў ААН, яблычны рынак чакаюць рэкордныя ў гісторыі страты. Аб'ём сусветнага гандлю яблыкамі і яблычным канцэнтратам скароціцца на 1 мільярд долараў (апошнія гады ён — каля 8 мільярдаў). Паколькі чакаецца абвал сусветных коштаў, садаводам не пазайздросціш. Яблыкі нават самай высокай якасці будзе ўвогуле вельмі складана прадаць. Збор ураджаю можа не акупіцца продажам. Значная частка яблыкаў папросту згніе. Больш за ўсіх пацерпяць Польшча, Украіна, Малдова, Турцыя.

Выйсце можа быць у стаўцы на перапрацоўку. І напэўна, беларускіх свежых яблыкаў стане больш у нашых крамах: у 2019 годзе іх доля ў продажах там склала толькі чвэрць. Беларускія перапрацоўшчыкі садавіны, у прыватнасці яблыкаў, чаго толькі з іх ні вырабляюць — ад чыпсаў да кальвадосу. Гэты яблычны алкагольны напой (брэндзі) прадукуюць некалькі беларускіх прадпрыемстваў (напрыклад, «Ілаўскае» і Пінскі вінаробны завод). Таксама трэнд апошняга часу на беларускіх заводах — слабаалкагольны сідр і натуральнае садавінавае віно. Але нават пляшка з этыкеткай «Чорнапарэчкавае» на 20% будзе з яблычнага вінаматэрыялу. Так што, яблыкі — наша ўсё.

Ну і, канешне, сокі ды пюрэ для дзіцячага харчавання. Гэтая беларуская прадукцыя годна пратэставаная арганізацыяй «Расякасць», якая даследуе харчаванне па даручэнні расійскага ўраду. Паўгода таму аналізавалася яблычнае дзіцячае пюрэ. Максімальныя 5 пунктаў атрымала пюрэ «Маленькае шчасце» ад ААТ «Белфуд прадакшн». А вось пюрэ «Расці вялікі» і «Хацінка» Маларыцкага кансервагароднінасушыльнага камбіната атрымалі 4 пункты. Усё добра: «У складзе пюрэ няма цукразамяняльнікаў і падсаладжальнікаў. Крухмал адсутнічае. Вытворца не эканоміў на сыравіне. На гэта ўказвае высокае ўтрыманне яблычнай кіслаты…». Але былі знойдзеныя сляды пестыцыду, утрыманне якога, аднак, у прадукцыі на цяперашні момант у Расіі ніяк не нармуецца і не кантралюецца. Таму, у прынцыпе, пюрэ адпавядаюць абавязковым патрабаванням.

Раней у даследаванні «Расякасці» яблычных сокаў высокія 4,9 пункта з 5 атрымаў сок «Villa Dini», выраблены на прадпрыемстве «Аазіс груп», якое паўстала ў сярэдзіне 2000-х гадоў на базе набытага бізнесоўцамі Бабруйскага кансервавага завода.

Дарэчы, апошнімі гадамі беларускія вытворцы павялічылі экспарт сухафруктаў і сокаў. Але ці спрацуе гэта ў крытычным для яблычнікаў 2020 годзе?

# край?

сістэмай. Дымленне — больш затратны захад, чым дажджаванне, калі квітнеючыя галіны садовых дрэваў апырскваюцца за некалькі гадзін да меркаваных замаразкаў. Так ствараецца паравая абарончая заслона.

Уплывае на ўраджай і засуха. У выніку, калі глядзець статыстыку, ураджайны танаж у розныя гады можа адрознівацца вельмі істотна. А да ўсяго, вы ж ведаеце з дзяцінства, што тыя самыя яблыні звычайна пладаносяць праз год. Але не ўсе. Гэта залежыць ад гатунку. Прыкмеціць небатанікам гэта можна па ступені буяння квецені. Праз год даюць ураджай менавіта тыя яблыневыя гатункі, якія пышна квітнеюць. І наадварот, яблыні са сціплай квеценню пладаносяць штогод без перапынкаў. А бывае, што да неўраджаю спрычыняецца чалавек, які папросту падчас абрэзкі дрэваў возьме ды чыкане самыя пладавітыя галіны.

### Народ-садоўнік

Паводле звестак Нацыянальнага статыстычнага камітэта, ураджай пладоў і ягад у 2018 годзе склаў 954 тысячы тонаў, у 2017-м удвая менш — 473 тысячы тонаў, у 2016-м былі багатыя 705 тысяч тонаў, у 2015-м атрымалася сабраць толькі 553 тысячы тонаў садавіны і ягадаў. Адпаведна скакала і ўраджайнасць: у 2018 годзе яна склала 110,5 цэнтнера з гектара, годам раней, у 2017-м, было толькі 56,9 ц/г. Для параўнання і разумення таго, як сягнула агракультура: у 1990 годзе ўраджайнасць была 31,9 ц/г, а валавы збор склаў 373 тысячы тонаў.

Адметна, што з пазалеташняга рэкорднага валавога збору пладоў і ягадаў у 954 тысячы тонаў толькі 155 прыпадае на сельгасарганізацыі, яшчэ 79 — на фермерскія гаспадаркі. Астатняя пераважная бальшыня — здабытак індывідуальных гаспадароў (у афіцыйнай статыстыцы — гаспадаркі насельніцтва). І яшчэ больш цікавыя лічбы па ўраджайнасці. Самая высокая яна ў фермераў — 155 цэнтнераў з гектара. У гаспадарках насельніцтва — 125 ц/г, а ў сельгасарганізацыях — 65 ц/г (то-бок, у два разы меншая!)

Як тут не згадаць, што дзяржава падчас перапісу насельніцтва ў мінулым 2019 годзе задавала сярод іншага пытанні пра колькасць садовых дрэваў і ягадных кустоў на нашых падворках і дачах. Паводле старшыні Нацыянальнага статыстычнага камітэта Іны Мядзведзевай, спецыялізаванае агенцтва ААН па харчаванні і сельскай гаспадарцы FAO (Food and Agriculture Organization) патрабуе ад усіх краін свету праводзіць кожныя дзесяць гадоў сельскагаспадарчыя перапісы. Да мінулага года Беларусь, па словах чыноўніцы, заставалася адзінай постсавецкай краінай, дзе такога ўліку не праводзілася ані разу. Белстат мае 100% інфармацыі наконт працы сельскагаспадарчых арганізацый, фермерскіх гаспадарак, але датычна сельгасдзейнасці насельніцтва няма карэктнай статыстыкі. Па словах кіраўніцы ведамства, «гэта пытанні харчовай бяспекі і далейшага развіцця аграбізнесу». Яна паабяцала, што інфармацыя пра нашы яблыні і парэчкі, чаго многія спалохаліся, анікім падатковым альбо кантрольным органам не паступіць. Пажывем — пабачым.

Калі браць рэгіёны, то праз кліматычныя ўмовы розніца паміж узроўнямі ўраджайнасці вельмі ўражвае. Напрыклад, у фермераў Брэсцкай вобласці яна складае 242 цэнтнеры з гектара, у той час як у Магілёўскай і Віцебскай абласцях фермерскія гаспадаркі маюць сціплыя 32 і 22 цэнтнеры з гектара садоў ды ягаднікаў.

Дзіва што! На поўдні Беларусі ўжо даўно перасталі быць экзотыкай бахчавыя. Летась адны толькі сельгасарганізацыі нашай краіны вырасцілі 700 тонаў кавуноў. Беларускія кавуны вытворцы-імпартазамяшчальнікі рэкламуюць як чысты прадукт з вельмі нізкім утрыманнем нітратаў — у адрозненне ад многіх прывазных і з больш высокім узроўнем цукраў. Але чым верыць на слова, давайце пры канцы жніўня — у пачатку верасня праверым-пакаштуем.

### Супердаходная ягада

А пакуль прыгадаем школьную батаніку: правільна, кавун — гэта ягада. Хаця ў пабытавым успрыняцці яго адносяць да садавіны. А расце ён на зямлі як гародніна. Аўтар гэтых радкоў некалькі гадоў таму спрабаваў пасадзіць кавуны на лецішчы пад Мінскам. Атрымаў задавальненне-трымценне ад эксперыментальнага працэсу, які скончыўся фіяска яшчэ да стадыі завязі. Натуральна, што цяперашні клімат дазваляе плённа займацца кавунаводствам у першую чаргу на цёплай Брэстчыне ці Гомельшчыне.

Адмыслоўцы кажуць, што пад плантацыі кавуноў варта адводзіць добра праграваныя і асветленыя сонцам, абароненыя ад вятроў участкі зямлі з паўднёвым, паўднёва-заходнім і паўднёва-ўсходнім схіламі. Лепшыя пасадкавыя папярэднікі для бахчавых — аднагадовыя бабовыя (гарох, лубін, соя, фасоля) і азімыя зерневыя. Неблагія папярэднікі — штосьці з гароднiны, і гэта ўжо можа пасаваць дачнікам (капуста, цыбуля, аднак не пасуюць гуркі). Але ўмова — пад іх павінны былі ўносіцца арганічныя ўгнаенні. Зноў на тым самым месцы вырошчваць кавуны можна праз 4–5 гадоў. Асноўная памылка — часты паліў. Кавун гэтага не любіць, бо ў яго пачынае хварэць каранёвая сістэма.

Брэсцкая абласная сельскагаспадарчая доследная станцыя Акадэміі навук распрацавала адмысловы тэхнічны рэгламент «Прамысловае вырошчванне кавуна ў адкрытым грунце». Адмыслоўцы раяць нідэрландскія гібрыды «Раманза F1», «Топ-ган F1». Дарэчы, менавіта іх вырошчвае на палетках сваіх рэзідэнцый і выхваляецца на ўсю краіну Лукашэнка.

Рэнтабельнасць вырошчвання кавуноў нашымі навукоўцамі разлічана ў дыяпазоне ад 70% пры пасадках насеннем да 150% пры выкарыстанні рассаднага спосабу! Чысты даход — да 3000 долараў з гектара. Хаця некаторыя адмыслоўцы-практыкі сцвярджаюць, што можна мець чысты прыбытак у памеры 6–7 тысяч долараў. Калі так, то ў хуткім часе, глядзіш, з бульбянога краю ператворымся ў кавуновы.





**Бадай, самы даступны бізнес з садавінай, калі не лічыць вулічны гандаль з латкоў, — гэта адкрыццё фрэш-бара (з асартыментам свежавыціснутых садавінавых і гароднінавых сокаў) або гатаванне і продаж карамелізаваных яблыкаў**

# Грошы з яблычным водарам

Вольга БУЖАВА

**Хтосьці робіць кар'еру ў IT-галіне з дапамогай «яблыка», а нехта працуе з жывым натурпрадуктам. Прычым гэта можа быць як складаная навуковая праца ў Акадэміі навук, так элементарная збіральніцкая ў «калгасным» садзе — выбірайце паводле сваіх уменняў і зацікаўленасці.**

Дарэчы, пра навуку. Вывядзенне новага гатунку яблык увайшло ў Топ-10 вынікаў беларускіх вучоных за 2018 год. Адзначаны аўтарскі калектыў Інстытута пладаводства Акадэміі навук «за стварэнне арыгінальнага гібрыднага фонду яблыні з выкарыстаннем маркер-спадарожнай селекцыі, што дазволіла атрымаць выбітны гатунак сярэдняга тэрміну выспявання з павышанай ураджайнасцю, высокай зіматрываласцю і ўстойлівасцю да хваробаў».

### «Крапач» ды іншыя

Гаворка пра гатунак «Крапач». Так нашы продкі называлі людзей, якія былі здольныя да выжывання ў складаных умовах. Ідэя належыць загадчыцы лабараторыі генетычных рэсурсаў пладовых, арэхаплодных культур і вінаграду Інстытута пладаводства Зоі Казлоўскай. Назва гатунку ўтворана ад вёскі Крапачы Баранавіцкага раёна, дзе яна вырасла.

«Крапач» — элітны гібрыд, прыдатны для вырошчвання экалагічнай прадукцыі. Ён паходзіць ад чэшскага гатунку «Атава» і беларускага «Вербны №1». «Крапач» уступае ў таварнае пладанашэнне на другі год пасля пасадкі. Сярэдняя ўраджайнасць — 30 тонаў з гектара. Памер пладоў — больш за сярэдні. Маса сягае за 160 грамаў. Мякаць сакавітая, хрумсткая, кіславата-салодкая. Таварнасць яблыкаў — 93%. Плады добра захоўваюцца пры натуральным ахаладжванні, без рэгуляванага газавага асяроддзя, цягам двух месяцаў. Паводле селекцынераў, новы гатунак пераўзыходзіць найлепшы цяпер айчынны аналаг «Прамяністы», а таксама замежныя — украінскі «Слава пераможцам» і літоўскі «Аўксіс». Выснова адмыслоўцаў: укараненне ў вытворчасць новага гатунку «Крапач» пашырыць прамысловы асартымент яблыні і дазволіць павысіць ураджайнасць не менш як на 18%, выхад таварнай прадукцыі — на 3% і ўзровень рэнтабельнасці — на 25%. А яшчэ палепшыць экалагічную сітуацыю ў садах і дазволіць зэканоміць сродкі на хімабарону: «Крапачу» дастаткова двзюх прафілактычных апрацовак увесну і ўвосень.

А вось якія гатункі розных відаў садавіны, «праверaныя часам», раяць у Інстытуце пладаводства Акадэміі навук. На любы густ, розных тэрмінаў выспявання, з трывалым імунітэтам да хваробаў. Гаворка пра гатункі, якія ўключаныя ў Дзяржаўны рэестр або знаходзяцца на выпрабаванні.

Такім чынам, гатункі яблыні: «Алеся», «Антэй», «Беларускі сінап», «Беларускі малінавы», «Беларускі салодкі», «Вербны», «Весяліна», «Дарунак», «Алена», «Заслаўскі», «Імант», «Кавaленкаўскі», «Мінскі», «Надзейны», «Памяці Каваленкі», «Памяці Сікоры», «Памяці Сюбаравай», «Поспех», «Сябрына» «Чараўніца»; грушы: «Беларуская позняя», «Берэ лошыцкая», «Духмяная», «Забава», «Лагодная», «Проста Марыя», «Ясачка»; сліва: «Венера», «Віцебская позняя», «Далікатная», «Кромань», «Нарач», «Чарадзейка»; вішня: «Вянок», «Грыёт беларускі», «Жывіца», «Заранка», «Навадворская», «Сеянец»; чарэшня: «Віцязь», «Гасцінец», «Гронкавая», «Красуня», «Медуніца», «Народная», «Асалода», «Сюбараўская», «Паўночная».

Парада наконт гатункаў яблыкаў, якія могуць захоўвацца да вясны: напрыклад, «Імант», «Алеся», «Заслаўскае», «Памяці Сікоры», «Дарунак», «Беларускі малінавы». Шукайце ў кропках рэалізацыі саджанцаў. І зможаце забяспечваць сябе ўласнымі яблыкамі амаль на паўгода. А калі дазваляюць садаводчыя маштабы, то і зарабіць.

### Што нападае з яблынь у гаманец?

Закупачныя кошты на гэты сезон яшчэ не вядомыя. Можна арыентавацца па мінулых гадах. Цэннік залежыць ад якасці прадукцыі, рэгіёна і, вядома, ураджайнасці. Прычым цягам сезона закупачная цана за кілаграм прадукцыі ў залежнасці ад аб'ёмаў попыту і прапановы можа або расці, або падаць. Напрыклад, у рэкордны па ўраджайнасці сезон 2018 года кошты знізіліся ўтрая — з 15 капеек да 10, а затым — да 5 за яблыкі-апад, а тое і па 3 капейкі ў некаторых мясцінах. То-бок, за мех можна было атрымаць усяго паўтара рубля. У мінулым годзе закупачны цэннік ападу, наадварот, рос — 10, 15 капеек і крыху вышэй. Гэта закуп яблыкаў на прамысловую перапрацоўку. За таварныя яблыкі, знятыя ўручную на продаж і захоўванне, давалі ад 60 капеек да 1 рубля 20 капеек за кілаграм.

Тут ужо зусім іншыя даходы. Як маеце жаданне і салідны капітал, падавайцеся ў садаводы-фермеры — закладайце новы сад на гектары або купляйце існы як гатовы бізнес. Натуральна, гэта дастаткова вялікія затраты — ад закупкі саджанцаў і адмысловай тэхнікі да ўсталявання агароджы, каб дрэвы не пашкодзілі зайцы, дый не толькі яны. А яшчэ ж яблыкі трэба не проста вырасціць, але і захоўваць ды прадаваць.

Вось, напрыклад, прапанова продажу яблынева-грушавага сада ў Стаўбцоўскім раёне. Дзесяць гатункаў яблыкаў і пяць грушаў. Трактар з прычэпамі, садовая касілка, плуг, культыватар, бур, апырсквальнік, падборшчык галінак, гідраўлічныя цялежка для збору яблыкаў… Сховішча: праўда, у дадзеным выпадку яго будаўніцтва законсерваванае. Штат супрацоўнікаў падабраны. Сад на 34 гектарах, агароджаны. Кошт — 500 тысяч рублёў! Таму калі не маеце фінансаў і адмысловай аграадукацыі, зрабіцеся спачатку дробным эфектыўным садаводам на дачы ці ў вёсцы. Натуральна, гэта павінен быць сад хоць бы з некалькімі дзясяткамі дрэваў, каб выпрабаваць розныя тэхналогіі і гатункі. Прынамсі, забяспечыце свежай садавінай і сокамі з яе сваю сям'ю.

**Завод па вытворчасці соку — таксама дарагое задавальненне. А ўвогуле ідэальны варыянт — поўны цыкл, калі вытворца яблыкаў іх і перапрацоўвае на сок ці сухафрукты. Буйныя беларускія фермеры якраз так і робяць**

### Выціснуць усе сокі

Спецыялізаваную адукацыю можна атрымаць у некалькіх нашых ВНУ. Напрыклад, у Гродзенскім дзяржаўным аграрным універсітэце на агранамічным факультэце. Спецыяльнасць — «Плодаагароднінаводства», а сфера дзейнасці — ад праектавання закладкі садоў да селекцыі. Важны момант: пры ГДАУ летась дзякуючы тэхнічнай міжнароднай дапамозе ААН пачаў дзейнічаць Цэнтр навучання і развіцця аграпрамысловага парка.

Веды і ўменні тут могуць атрымаць не толькі студэнты, але і фермеры. Пачынаючы ад бізнес-планавання і заканчваючы перапрацоўкай садавіны і ягад. Тут прапануюць як курсы прадпрымальніцтва, так і кансультацыйныя паслугі па аграрнай справе. Па садаводстве — абгрунтаванне падбору ўчастка і размяшчэння на ім сада, вызначэнне паказчыкаў урадлівасці глебы, рэкамендацыі па гатунковым складзе ды іншае. Што да атрымання навыкаў па перапрацоўцы садавіны, то ў агрaпарку маюцца інфрачырвоныя сушылкі, машыны для рэзкі і пакавання, лінія вытворчасці сокаў прамога выціскання.

Завод па вытворчасці соку — таксама дарагое задавальненне. А ўвогуле ідэальны варыянт — поўны цыкл, калі вытворца яблыкаў іх і перапрацоўвае на сок ці сухафрукты. Буйныя беларускія фермеры якраз так і робяць. Тое самае і перапрацоўшчыкі. Напрыклад, Талачынскі кансервавы завод мае пад яблыні 300 гектараў. Сёлета тут рыхтуюцца сабраць першы ўраджай новага гатунку «Дыямент». Маецца пад 30 гектараў больш рэнтабельных грушаў. Сёлета плошчы пашырацца. Прычым саджанцамі з уласнага гадавальніка.

Бадай, самы даступны бізнес з садавінай, калі не лічыць вулічны гандаль з латкоў, — гэта адкрыццё фрэш-бара (з асартыментам свежавыціснутых садавінавых і гароднінавых сокаў) або гатаванне і продаж карамелізаваных яблыкаў (іх кухарская перапрацоўка). На абсталяванне, сыравіну, арэнду працоўнага месца спатрэбяцца некалькі тысяч долараў. Дэсерт «Карамельны яблычак» проста робіцца ў фармаце вулічнага выязнога гандлю ў людных месцах. Канечне, пасля каронавіруснай эпідэміі.

Сыравіна — яблыкі і карамельны сіроп. Яблыкі чысціцца, нанізваюцца на адмысловыя палачкі і глазуруюцца (карамелізуюцца) сіропам. Калі той сцякае, яблык прасушваецца і кладзецца на сподак. Амаль гатова, бо яшчэ карамелізаваную садавіну можна пасыпаць арэшкамі, марцыпанамі ці нечым яшчэ. Пасыпкі могуць разнастаіць асартымент. Зразумела, што спатрэбяцца расходнікі — посуд, пакеты, сурвэткі… Магчыма, такі дэсерт — на аматара, але арыгінальна і відовішчна: людзі любяць, калі нешта спрытна гатуецца на іх вачах.

Вам толькі застаецца рашыцца і адтачыць лоўкасць рук.

# Палярны аншлюс

Алег НОВІКАЎ

**Ідэя аб'яднання Архангельскай вобласці і Ненецкай аўтаномнай акругі зноў надала актуальнасці тэме ўзбуйнення расійскіх рэгіёнаў і пагрозам ліквідацыі нацыянальных аўтаномій.**

Адсутнасць прагрэсу ў інтэграцыі з Мінскам Масква можа часткова кампенсаваць навінамі з рэгіёнаў. Відавочна, не без удзелу федэральнага цэнтру ідуць актыўныя інтэграцыйныя працэсы паміж Архангельскам і Ненецкай акругай. Ужо падпісаны мемарандум пра намеры аб'яднаць рэгіёны. Ёсць нават дарожная карта. Паводле яе, фінальнае рашэнне наконт аб'яднання будзе прынятае пасля правядзення ў абодвух рэгіёнах рэферэндумаў у адзіны дзень галасавання 13 верасня. Па словах чыноўнікаў, нічога асаблівага не адбываецца. Ненецкая акруга ўваходзіла ў склад Архангельскай вобласці ў час яе стварэння ў 1937 годзе.

Большасць каментатараў схіляецца да тэзісу, што тое аб'яднанне — сапраўды, сюжэт, хутчэй, лакальнага маштабу. У дадзеным выпадку з аднаго боку ёсць дэпрэсіўная Архангельская вобласць. З іншага — больш багатая за кошт здабычы нафты і газу Ненецкая акруга. У выніку аб'яднання суб'ектаў можна будзе вырашыць частку праблем Архангельска, які шчыльна сядзіць на датацыях.

Ёсць думка, што папаўненне архангельскага абласнога бюджэту таксама дапаможа ўзняць градус лаяльнасці насельніцтва на адрас улады. І, перш за ўсё, зняць з павесткі дня балючую праблему палігона для маскоўскага смецця каля станцыі Шыес. Раней паведамлялася, што сюды на працягу 20 гадоў плануюць прывезці больш за 10,5 мільёна тон бытавых адходаў са сталіцы. Заканамерна, што гэта не падабаецца мясцовым жыхарам і эколагам, якія рэгулярна арганізуюць пратэстныя акцыі. Прычым, як прызнаюць назіральнікі, гэта абсалютны фенаменальны нізавы народны пратэст, якому не патрэбныя кадравыя, фінансавыя і экспертныя рэсурсы звонку.

Між тым, гучаць і больш алармісцкія галасы. Дапускаюць, што падзеі на Поўначы — не што іншае, як чарговая серыя наступу на федэралізм, правы малых народаў, іх культуру і ідэнтычнасць. Тым больш, што запланаванае ўзбуйненне — не першае. Першы прыклад аб'яднання рэгіёнаў і змены адміністрацыйна-тэрытарыяльнай карты Расійскай Федэрацыі пасля прыняцця ў 1993 годзе здарыўся ў 2003-м. Тады аб'ядналі Пермскую вобласць і Комі-Пярмяцкую аўтаномную акругу ў Пермскі край. Апошні раз, у 2008-м, інтэграваліся тагачасная Чыцінская вобласць і Агінска-Бурацкая аўтаномная акругі, якія ў выніку сфарміравалі Забайкальскі край.



Фота www.nakanune.ru

Ідэя ўнітарнай дзяржавы сапраўды папулярная сярод часткі расійскай эліты. Прычым у клуб яе лабістаў уваходзіць не толькі эксцэнтрычны Жырыноўскі, які заклікае вярнуцца да дарэвалюцыйнага адміністрацыйнага падзелу краіны на губерні. Шматлікія чыноўнікі і эксперты мяркуюць, што буйныя агламерацыі лепш пасуюць сучасным эканамічным выклікам і новаму тыпу гаспадаркі. Між тым, цяперашняя адміністрацыйна-тэрытарыяльная формула была створаная ў першай палове XX стагоддзя пад іншы тып эканомікі.

**Крэмль сапраўды можа скарыстацца момантам, каб «нарэзаць» рэгіёны па-новаму. Імпульсам для рэанімацыі планаў унітарнай дзяржавы можа стаць новы эканамічны крызіс**

Сярод тых, хто падзяляе такі падыход, экс-міністр фінансаў Аляксей Кудрын, спікер Савета Федэрацыі Валянціна Матвіенка, губернатар Бранскай вобласці і гэтак далей. Сенатар Сяргей Калашнікаў лічыў магчымым аб'яднанне некалькіх нацыянальных рэспублік Паволжа ў адміністрацыйны суб'ект, «які не мае нацыянальнай афарбоўкі».

З іншага боку, нават у цэнтры шмат нязгодных з тэмай мегарэгіёнаў. Эксперты прагназуюць праблемы кіравання і сацыяльныя канфлікты. Натуральна, ёсць фронда і на месцах. Напрыклад, кіраўніцтва Татарстану афіцыйна крытыкавала ідэі буйных агламерацый. Зразумела, што ў гэтым пытанні мясцовыя эліты абапіраюцца нават на апазіцыйную нацыянальную грамадскасць.

Зрэшты, адзінства наконт узбуйнення няма і ў шэрагах апазіцыі. Гледзячы на форумы, некаторыя мясцовыя, — у прыватнасці, татарскія, — нацыяналісты гатовыя падпісацца пад планам узбуйнення. Праўда, толькі ў выпадку, калі да Татарстану далучаць некаторыя тэрыторыі памежных рэгіёнаў, дзе шмат этнічных татараў. Яны лічаць, што ў склад Татарстану трэба інкарпараваць каля 40–45% Башкартастану, каля 20% Арэнбургскай вобласці, 50% Ульянаўскай вобласці, 20% Самарскай, і 5% Пермскага краю.

Таксама часткова падтрымаюць узбуйненне рэгіёнаў гатовыя і прыхільнікі адраджэння Ідэль-Уралу (іншая назва — Уральска-Волжскі штат) — праекта нацыянальнай аўтаноміі татарскага і башкірскага народаў у часы расійскай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны. Хаця яго ўрад і прызнаваў савецкую ўладу, у сакавіку 1918-га чырвонаармейцы зачысцілі татарскі квартал Казані, у якім, па сутнасці, толькі і дзейнічала ўлада той аўтаноміі. У цяперашняй версіі, якую сфармулявалі на пачатку 1990-х гадоў, Ідэль-Урал ахоплівае больш вялікі арэал — Башкартастан, Татарстан, Чувашыю, Мардовію, Мары-Эл, вобласці Уралу з пераважна расійскім насельніцтвам. Этапам дзяржаўнага будаўніцтва Ідэль-Уралу, можа быць, маўляў, сфарміраваны на базе шэрагу нацыянальных аўтаномій рэгіён.

Як бы фантастычна ні гучалі канцэпты Ідэль-Уралу, рэальнасць, якую стварыла эпідэмія, дазваляе рэалізаваць самыя фантастычныя праекты. Паводле меркавання некаторых уральскіх СМІ, Крэмль сапраўды можа скарыстацца момантам, каб «нарэзаць» рэгіёны па-новаму. Імпульсам для рэанімацыі планаў унітарнай дзяржавы можа стаць новы эканамічны крызіс і неабходнасць змяншаць выдаткі.

Зрэшты, для пачатку трэба пераканаць жыхароў Ненецкай аўтаномнай акругі выказацца за саюз з Архангельскам. Усе мясцовыя назіральнікі пішуць пра неадназначную рэакцыю жыхароў, якія перажываюць за сацыяльныя наступствы аб'яднання.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Вірус выратаваў свет ад калапсу?

Некаторыя нямецкія СМІ пішуць, што, як гэта ні цынічна гучыць, цяперашняя эпідэмія мае пэўныя пазітыўныя бакі. Калі б увесь свет не захварэў на Covid-19, яго сёння мог чакаць жудасны хаос.

Усё праз радыкальных эколагаў, якія разглядалі 2020-ы як год вырашальнай бітвы за клімат. Калі верыць тым жа СМІ, напярэдадні гэтага года абаронцы клімату падрыхтавалі падступны план маштабнага наступу на інфраструктуру буйных гарадоў і офісы вядучых энергетычных кампаній Заходняй Еўропы. Толькі пад план атакі і блакады Франкфурцкага аэрапорта было мабілізавана каля дзесяці тысяч актывістаў. Аперацыя была запланаваная якраз на пачатак лета, аднак праз эпідэмію і каранцін яе давялося адкласці.

Цяпер наўрад ці эколагі хутка вернуцца да сваіх планаў, паколькі праз каронавірус прыпыніў дзейнасць школьны рух Fridays for Future, акцыі якога ў мінулым годзе падтрымалі 1,4 мільёна дзяцей. Крызіс таксама прымусіў скараціць фінансаванне грамадзянскага сектару, частка якога падтрымлівала радыкальных кліматычных актывістаў. Аднак нельга забывацца, што сіноптыкі абяцаюць спякотнае лета. Таму ладзіць хаўтуры па кліматычным руху, магчыма, яшчэ рана.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Хан Батый — стваральнік рускай арміі?

Падчас каранціну, верагодна, з-за беднай інфармацыйнай стужкі вялікую цікавасць выклікаюць кнігі па гісторыі. Не прайшла грамадскасць і міма творчасці дэпутата Дзяржду-мы РФ Фаціха Сібагатуліна, які выдаў кнігу «Татарыя і татары», у якой фактычна перапісаў расійскую гісторыю.

Перш за ўсё аспрэчана тое, што пасля прыходу хана Батыя Русь на 240 гадоў трапіла пад татара-мангольскае нашэсце. Аказваецца, ніякія мангола-татары Русь не заваёўвалі. Татарамі, калі верыць Сібагатуліну, называліся ваяры Арды, а Арда — гэта руская рэгулярная армія, трохі разбаўленая палаўцамі і, магчыма, булгарамі. І слова «иго» Сібагатулін са стараславянскай таксама пераклаў. Яно, аказваецца, азначае «ваенная дыктатура». Карацей, рускія самі сябе заваявалі. А татарамі яны назваліся, каб ніхто не здагадаўся.

Фактычна, хан Батый у канцэпцыі дэпутата выступае аналагам легендарнага князя Рурыка, які прыйшоў са сваімі варагамі наводзіць на Русі парадак. Толькі з той розніцай, што Батыя запрасілі для арганізацыі рэгулярнай рускай арміі. Аматары жартаў цяпер чакаюць з'яўлення новага гістарычнага опуса пра Малюту Скуратава — спецыяліста па масажу.

**Паводле расійскай прэсы**

### МАДАГАСКАР. Шаманы перамаглі вірус?

Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) перажывае нялёгкія часы. Некаторыя краіны падазраюць СААЗ у тым, што яна дапамагала Пекіну хаваць інфармацыю пра пачатак эпідэміі.

Дадатковым галаўным болем для функцыянераў арганізацыі стаў Мадагаскар. Не так даўно прэзідэнт Анры Радзуэліна распавёў пра сапраўдны прарыў мясцовых шаманаў, якія прыдумалі нейкі Covid-Organics — напой на базе зёлак, якія звычайна ўжываюцца супраць малярыі. Сёння яго даюць усім мадагаскарскім ахвярам Covid-19, што, маўляў, мае фантастычны эфект. Калі верыць мадагаскарскім чыноўнікам, настоем лечаць пацыентаў на працягу 10 дзён. У сваю чаргу, СААЗ упарта папярэджвае, што настой Covid-Organics не прайшоў клінічных выпрабаванняў, і заклікае ўтрымацца ад яго ўжывання.

Такія заявы сталі падставай для гучнага дэмаршу з боку мадагаскарскага кіраўніцтва. «Калі б гэта быў не Мадагаскар, а еўрапейская краіна, якая знайшла гэтыя лекі, наўрад было б так шмат сумневаў», — сказаў у інтэрв'ю кіраўнік Мадагаскара. Ён таксама абвінаваціў Захад у паблажлівым стаўленні да традыцыйнай афрыканскай медыцыны. Гвінея, Нігер і Танзанія закупілі ў Мадагаскара партыю напою.

**Паводле французскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. XXI стагоддзе будзе індыйскім?

Брытанскі ўплывовы часопіс The New Stateman пралічыў, што Індыя атрымае самы вялікі гешэфт ад цяперашняй пандэміі. Усё таму, што Захад імкліва губляе давер да Кітая, што можа паўплываць на інвестыцыйны імідж краіны. Акрамя таго, Злучаныя Штаты разглядаюць Кітай як стратэгічнага праціўніка і, гледзячы па ўсім, у перспектыве не зацікаўленыя ў развіцці мясцовай гаспадаркі.

Як вынік, заходні бізнес будзе шукаць новыя прыстані для інвестыцый. Выбар, як лічыць часопіс, хутчэй за ўсё, будзе зроблены на карысць Індыі, дзе вельмі танная працоўная сіла. Цяперашні крызіс, выкліканы каранцінам, зробіць працу індусаў яшчэ таннейшай. Паводле калькуляцыі, 400 мільёнаў індусаў за час эпідэміі страцяць працу. Усё гэта дазваляе Індыі стаць альтэрнатывай Кітаю. «Калі Індыя пачне агрэсіўную маркетынгавую кампанію, яна хутка можа стаць наступным вялікім сусветным вытворчым цэнтрам», — піша The New Stateman.

Праўда, геапалітычныя наступствы эканамічнага росту Індыі пакуль не пралічваюцца.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Знайшліся звесткі пра расстралянага ў Курапатах Мардыхая Шулькеса

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Днямі гісторык-архівіст Зміцер Дрозд апублікаваў на сайце Беларускага дакументацыйнага цэнтра сенсацыйныя звесткі: верагодна, устаноўлена асоба і знойдзены фота аднаго з двух дакладна вядомых расстраляных у Курапатах людзей — Мардыхая Шулькеса.**



**Мардыхай Шулькес.**
Фота: yadvashem.org

«Новы Час» паразмаўляў з даследчыкам пра тое, чаму так доўга не было ніякіх даных пра ахвяр Курапатаў і чаму знаходжанне звестак пра Мардыхая Шулькеса яшчэ раз абвяргае версію нацысцкага следу ў Курапатах.

## Адкуль узялося імя Мардыхая Шулькеса

У 1997–1998 гадах была аднаўлена крымінальная справа па факце выяўлення ва ўрочышчы Курапаты парэшткаў людзей з прыкметамі гвалтоўнай смерці. Справу даручылі весці Ваеннай пракуратуры. Падставай для аднаўлення справы паслужылі сведчанні, якія пасля былі падвергнуты сумневам, нібыта тут пахаваныя ахвяры Халакосту.

Для правядзення эксгумацыі целаў пры Інстытуце гісторыі НАН Беларусі была арганізавана спецыяльная група археолагаў. У кастрычніку 1997 і траўні 1998 гадоў было вывучана 23 аб'екты, з якіх 9 аказаліся магіламі.

У адным з раскопаў, дзе было выяўлена 74 целы, археолагі знайшлі тры партманэ з трыма турэмнымі квітанцыямі. У двух з іх алоўкам былі ўпісаны даныя: турма Гродна, дата 10 чэрвеня 1940 года і імёны: Мойша Іосеевіч Крамер і Мардыхай Шулькес. Па адзенні на целах было ўстаноўлена, што расстрэл, хутчэй за ўсё, праходзіў у цёплую пару года.

У выніку следства не выявіла ніякіх доказаў, якія маглі б пацвердзіць «нямецкую версію», але матэрыялы даследавання былі засакрэчаныя і да гэтага часу не даступныя.

## Як Шулькес трапіў у базу ахвяр Халакосту

— Спробы знайсці двух вядомых людзей, чые целы былі ідэнтыфікаваныя ў Курапатах, пачаліся адразу ж пасля іх выяўлення. Але ўсе яны не мелі ніякага выніку, — зазначае Зміцер Дрозд. — Справы не былі выяўленыя ў архіве КДБ Рэспублікі Беларусь (праўда, шукалі самі чэкісты — а як яны шукалі, ведаюць толькі яны самі). Як вядома, Лукашэнка заявіў, што «палякаў у Беларусі не расстрэльвалі», а яго меркаванне ў нас набывае статус закона. Пад палякамі тут разумеюцца грамадзяне Рэчы Паспалітай Польскай. Ніякіх звестак не было знойдзена.

Год таму, 16 траўня 2019 года, Зміцер Дрозд паспрабаваў знайсці хоць нейкія сляды гэтых ахвяраў. Прозвішча Крамер аказалася занадта распаўсюджаным, каб за нешта зачапіцца. А вось Шулькес, як выявілася, — наадварот. Для даследавання гісторык звярнуўся да велізарнай базы даных ахвяр Халакосту на сайце Яд Вашэм.

— Гэтая база існавала даўно, але толькі цяпер пачалі ствараць яе лічбавы варыянт. Першая анкета на Мардыхая Шулькеса была запоўненая яшчэ ў 1955 годзе, але заставалася толькі на паперы. Цяпер яна аблічбаваная і даступная любому ахвотнаму, — тлумачыць Зміцер Дрозд. — Вялікую працу правёў журналіст з Гродна Руслан Кулевіч. Важныя фота і іншыя дакументы знайшоў даследчык рэпрэсій з Расіі Сяргей Раманаў. Цяпер нам зразумелая агульная карціна таго, што адбылося, і ясна, дзе ў нас ёсць шанец знайсці яшчэ доказы.



**На сённяшні дзень афіцыйна вядомыя толькі два імені расстраляных у Курапатах**





**Зміцер Дрозд**

Але як імя Мардыхая Шулькеса аказалася ў базе ахвяр Халакосту 1941 года? Гісторык дае на гэтае пытанне цалкам лагічны адказ:

— Мяркуючы па імёнах, гэтыя карткі запаўнялі бацька і малодшая сястра Мардыхая Шулькеса. Абодва яны знаходзіліся далёка ад Беларусі і нічога не ведалі пра лёс Мардыхая — таму і меркавалі, што ён стаў ахвярай Халакосту. У адной з картак запісана, што, меркавана, ён загінуў ад бамбавання.



151716

YAD VASHEM
Martyrs' and Heroes' Remembrance Authority
P.O.B. 3477 Jerusalem, Israel

דף–עד
רשות-הזיכרון לשואה ולגבורה, ירושלים

יד ושם
ירושלים, הר הזיכרון
ת.ד. 3477

THE MARTYRS' AND HEROES' REMEMBRANCE LAW, 5713–1953 determines in article No. 2 that –
The task of YAD VASHEM is to gather into the homeland material regarding all those members of the Jewish people who laid down their lives, who fought and rebelled against the Nazi enemy and his collaborators, and to perpetuate their NAMES and those of the communities, organisations, and institutions which were destroyed because they were Jewish.

DETAILS OF VICTIM: INSCRIBE EACH VICTIM ON A SEPARATE PAGE, IN BLOCK LETTERS

1. Family name: SHULKES
2. First name: MORDCHAI
3. Previous name. (nee for woman)
4. Birth date or appr. age: 1914
5. Sex
6. Fam. status
7. Birth place and country:
8. Victim's mother - First name: MIRIAM - Maiden name/nee: COORAZ
9. Victim's father - First name: JOSHUA SHULKES
10. Victim's spouse - First name: - Maiden name/nee:
11. Permanent residence place and country: GRODNO POLAND
12. Wartime residence place and country: GRODNO POLAND
13. Victim's profession:
14. Date/year of death: 1941
15. Death place: Circumstances of death:

Reported by:
I, the undersigned
Residing at (address)
Relationship to victim (family/other)
HEREBY DECLARE THAT THIS TESTIMONY IS CORRECT TO THE BEST OF MY KNOWLEDGE
Place and date 18.2.96 Signature
During the war I was in: Camp/Ghetto/Resistance:

"...even unto them will I give in mine house and within my walls a place and a name...that shall not be cut off." isaiah, lvi,5

**Карткі Яд Вашэм са звесткамі пра Мардыхая Шулькеса**

## Шлях у Курапаты

Цяпер дзякуючы карткам Яд Вашэм і выяўленым іншым дакументам у агульных рысах сталі вядомыя некаторыя дэталі з жыцця Мардыхая Шулькеса. Хутчэй за ўсё, ён нарадзіўся ў Санкт-Пецярбургу ў 1914 годзе. Пасля жыў і вучыўся ў Гродне. Ёсць выразка з газеты «Słowo» за 3 ліпеня 1933 года аб атрыманні Мардыхаем Шулькесам атэстата пасля заканчэння мужчынскай гімназіі імя Адама Міцкевіча ў Гродне.

Даследчык сталінскіх рэпрэсій Сяргей Раманаў знайшоў фатаграфію 1932 года, на якой Мардыхай Шулькес адзначаны як сябар гродзенскай секцыі моладзевай сіяністкай арганізацыі «Бейтар» (першы ў першым шэрагу).

Гэта не проста моладзевая арганізацыя, менавіта ваенізаваная, яе мэтай была падрыхтоўка байцоў за Ізраільскую дзяржаву. «Бейтар» значыцца ў спісах НКУС як контррэвалюцыйная і антысавецкая суполка. Гэта значыць, усе яе чальцы падлягалі пастаноўцы на спісачны ўлік, а кіраўнікі і найбольш актыўныя члены — арышту. І ў гэтым, магчыма, адказ на пытанне, як і чаму Мардыхай Шулькес трапіў у курапацкую яму... Пакуль застаецца адкрытым пытанне, калі ён быў арыштаваны: у 1939 або ў 1940 годзе. Потым яго этапавалі ў Мінск, дзе і расстралялі ў Курапатах, мяркуе Зміцер Дрозд.

Знаходка гісторыка ў чарговы раз перакрэслівае версію пра нібыта расстрэлы ў Курапатах габрэяў-перакладчыкаў з Заходняй Еўропы, дакладней, з Аўстрыі і Чэхіі. Мардыхай Шулькес быў нашым беларускім (а ў перыяд у 1921–1939 гадоў — польскім) габрэем. Дзякуючы базе Яд Вашэм атрымалася ўстанавіць, што прозвішча Шулькес — рэгіянальнае, і ўвесь арэол яго распаўсюджвання з невялікім роскідам: ад Аўгустова, які пасля верасня 1939 года ўваходзіў у Беластоцкую вобласць БССР, праз Гродна да Скідзеля і Васілішак (усё — Гродзенская вобласць). Усяго з такім прозвішчам было знойдзена каля 140 чалавек.

## І зноў Беларускі Катынскі спіс

Далейшыя пошукі слядоў Мардыхая Шулькеса, лічыць гісторык, можна працягнуць у Маскве.

— Злачынства Сталіна, якое нам вядома як Катынскі расстрэл, адбывалася не толькі ў Катыні. Ужо даказаныя і знойдзеныя месцы расстрэлаў ва Украіне. Гісторыкі не толькі выказваюць здагадкі, але ўжо паспяхова рэканструююць аналагічны ўкраінскаму спіс грамадзян Польшчы (у асноўным жыхароў Заходняй Беларусі), якія былі знішчаны ў БССР. Ніякай дапамогі ад беларускага КДБ тут, падобна, не будзе. Падчас Катынскага расстрэлу былі знішчаныя не толькі ваеннапалонныя, але і прадстаўнікі грамадзянскай адміністрацыі, паліцыі, лідары партый і арганізацый. Падобна на тое, што адным з іх і быў Мардыхай Шулькес.

Але ці можна са стоадсоткавай упэўненасцю сцвярджаць, што Мардыхай Шулькес — ахвяра Халакосту і Мардыхай Шулькес, расстраляны ў Курапатах, — адна і тая ж асоба?

— Усе пытанні можна будзе зняць толькі адным спосабам: калі будзе знойдзены акт аб прывядзенні прысуду ў выкананне. З вялікай верагоднасцю, у ім акажацца і іншы знойдзены ў гэтай жа яме ў Курапатах чалавек — Мойша Крамер. На жаль, пасля таго, як знішчаліся справы па Катынскім расстрэле ў Маскве і ва Украіне, а з тых, што не былі знішчаныя, многае нам да гэтага часу не даступна, надзея на гэта невялікая, — падсумоўвае Зміцер Дрозд.

Аднак гісторык перакананы, што гэта менавіта той самы Мардыхай Шулькес, ён быў арыштаваны і расстраляны НКУС. Па словах даследчыка, «ёсць яшчэ вельмі сур'ёзныя козыры, якія знялі ўсе пытанні. Але пакуль гэта застанецца таямніцай».

Магчыма, ненадоўга: цяпер працягваюцца архіўныя пошукі, у прыватнасці, па канвойных спісах з Гродна ў Мінск, і іншых. І, хто ведае, можа быць неўзабаве адкрыюцца новыя звесткі пра ахвяраў НКУС у Курапатах, якія дадуць новы штуршок беларускаму адраджэнню, як гэта зрабіў артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва амаль 32 гады таму.



Брама ў Ліпенях пад Заслаўем

# Ён мог апынуцца ў Курапатах



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Памятаеце знакамітую даваенную савецкую браму ў Коласава з надпісам «Прывітанне працоўным Захаду»? З 1924 года такога кшталту брамы стаялі на ўсіх савецкіх памежных чыгуначных пераездах і КПП. Яны заклікалі замежнікаў ехаць у «імперыю Сталіна», дзе кожны меў працу і мог бясплатна вучыцца.**



Савецкі пamежнік ля брамы ў Коласава

## Цяжкі выбар беларусаў

У існаванне савецкага «раю на Зямлі» верылі і шматлікія жыхары Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай. Нацыянальны ціск з боку польскіх уладаў, эканамічныя праблемы на «крэсах» прымушалі шматлікіх беларусаў папаўняць шыхты падпольнай КПЗБ ці бегчы за мяжу. Да таго ж, праз той кардон, нягледзячы на памежныя пасты, было няцяжка прайсці.

Асабліва шмат беларусаў пабегла ў БССР у канцы лета 1939 года, калі стала зразумела, што вайны з Германіяй Польшчы не пазбегнуць. Атрымаўшы позвы, большасць нашых суайчыннікаў збірала рэчы і ішла ў мабілізацыйныя камісіі, каб трапіць у Войска Польскае. Аднак былі і тыя, хто не хацеў бараніць «белага арла». Сярод апошніх аказаўся і ўраджэнец мястэчка Крэва 28-гадовы Іван Рапацэвіч. «Летам 1939 года польскія ўлады аб'явілі прызыў моладзі ў войска. Польшча рыхтавалася да вайны з Германіяй. Я таксама атрымаў позву. [...] Ухіляючыся ад службы ў польскім войску, шмат хто сыходзіў праз мяжу ў Савецкую Расію. [...] Не было вёскі, з якой нехта не накіраваўся б у Саюз», — узгадваў ва ўспамінах Іван Мікалаевіч.

Усеагульная мабілізацыя на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай пачалася ў 20-х днях жніўня 1939 года. Большасць мужчынскага насельніцтва Польшчы атрымала позвы (так званыя «карткі»), і на падставе іх павінна была з'явіцца на прызыўныя пункты. Аднак рабілі гэта не ўсе. 21 жніўня 1939 года Рапацэвіч са сваім сябрам Вінцэнтам Грынкевічам дабраліся да дзяржаўнай мяжы паміж Польшчай і БССР. Вось яны, бела-чырвоны польскі і чырвона-зялёны савецкі памежныя слупы. Прамяні сонейка на савецкім гербе быццам заклікаюць ісці наперад, у «першую краіну працоўных і сялян». Пералезлі праз калючы дрот — і бягом наперад. Ззаду засталося мястэчка Радашковічы, наперадзе савецкая вёска Чыравічы. «Мы ж да сваіх ідзем, да беларусаў. Урэшце, зразумеюць, што не хочам мы "за паноў і буржуяў" ваяваць. Хочам вучыцца ў беларускім універсітэце і служыць у непераможнай Чырвонай Арміі», — прыкладна так разважалі крэўскія хлопцы, калі падышлі да брамы з надпісам па-руску «НКВД БССР Пограничная застава».

«Кто такие, а ну руки вверх», — пачуліся крыкі з боку жаўнераў у зялёных фуражках. «Браткі, свае мы, беларусы. Польшча з германцам ваяваць збіраецца, а мы не хочам за іх гінуць», — закрычалі перабежчыкі. «Молчать. Под арест их», — загадаў савецкі афіцэр-памежнік.

## Радзіма сустракае... допытамі і лагерам

Хлопцаў дапыталі на заставе і накіравалі ў Заслаўе. На працягу тыдня перабежчыкаў трымалі ў турме 15-га памежнага атрада. Некалькі разоў дапытвалі, пры гэтым асаблівы акцэнт ставілі на мэце пераходу мяжы. Афіцэр-памежнік некалькі разоў перапытваў: «Какие объекты должны были увидеть и описать? Какие данные должны были собрать для польской разведки?». «Але ж ніякіх. Атрымаў позву з польскай вайсковай мабілізацыйнай камісіі. 22 жніўня павінен быў прыйсці да іх. А там бы супраць германцаў накіравалі. А на што я буду за іх ваяваць, калі мяне польская настаўніца лінейкай за беларускую мову біла», — адказваў на допыце Рапацэвіч.

Праз тыдзень хлопцаў з Крэва павезлі ў турму ў Мінск. «Мяне размясцілі ў камеры, што была ў падвале. Грынкевіча павялі далей па калідоры — і больш я яго не бачыў», — узгадваў пазней Іван Мікалаевіч. У невялікай камеры сядзелі 22–23 чалавекі. Людзей было вельмі шмат, таму адпачывалі яны па чарзе. Пакуль адны спалі, іншыя вымушаныя былі стаяць. Умовы знаходжання былі жудаснымі. Галіцца і мыцца не давалі. За ўвесь час знаходжання яго толькі два разы выводзілі на шпацыр. Па некалькі разоў на тыдзень ноччу перабежчыка выводзілі на допыты. «Канвойны адчыняў акенца камеры і называў толькі першую літару прозвішча чалавека. Калі трэба, дадаваў імя і прозвішча», — распавядаў Рапацэвіч.

«Данные о каких военных объектах ты должен был собрать? Нам известно, сволочь панская, зачем ты сюда пришел. Отвечай на вопрос, тебе же легче будет», — крычаў на жыхара Заходняй Беларусі следчы. Рапацэвіч маўчаў, і яго пачалі біць. На допыце прысутнічала пяць (!) следчых. Білі ўсе. Потым збітага хлопца падымалі на ногі, уключалі ў твар лямпу, і адзін са следчых ціхім голасам пытаў: «Какое задание ты получил от польской разведки и сколько денег за это тебе отвалили твои хозяева». «Але ж пан, ой, таварышч...Грамадзянін следчы, я ж кажу, што пры Польшчы нацярпеўся і ніколі б, ні за якія грошы не пайшоў бы на іх працаваць. Я хачу быць савецкім грамадзянінам», — выціраючы кроў з разбітых носа і рота казаў Мікалай. «Твое место в земле, гад ползучий», — закрычаў у адказ следчы.

«Следства» працягвалася да глыбокай восені 1939 года. Знясілены хлопец не вытрымаў катаванняў і... «прызнаўся» ў супрацы з польскай выведкай, а таксама падпісаў усе пратаколы допытаў, якія «згатавалі» нкусаўцы. «Разам са мной у камеры сядзеў Бесараб Мацвей Іванавіч з Навагрудскага раёна. Ён застаўся жывы. [...] А вось Якімовіч Серафім Рыгоравіч ці ацалеў, не ведаю. З намі сядзелі два польскія памежнікі. [...] Прозвішча аднаго я памятаю — Ермашэвіч з Берасцейскай вобласці. Было два латышы, але прозвішчы іх я не памятаю. І адзін румын, які ад допытаў звар'яцеў. А так, у асноўным, у камеры былі заходнія беларусы, усе маладыя мужчыны. [...] Мы ведалі такое правіла: калі канвойны казаў збірацца з рэчамі, значыць, гэты арыштант да нас у камеру ўжо больш не вернецца. Сярод зняволеных ішлі тады размовы, што тых, хто сыходзіў "з рэчамі", вывозілі на расстрэл у Зялёны Луг», — узгадваў Іван Рапацэвіч.

1 лістапада 1939 года адбыўся суд Вайсковага трыбунала Беларускай вайсковай акругі. Дзяржаўным абвінаваўцам быў афіцэр НКУС Тарасенка. Ні сведкаў, ні адваката на працэсе не было. Жыхара мястэчка Крэва Віленскага ваяводства Польшчы Івана Рапацэвіча абвінавацілі ў злачынствах, прадугледжаных артыкуламі 120 і 68а Крымінальнага кодэкса БССР — парушэнне мяжы і збор выведвальных дадзеных. Абвінавачанні былі цяжкія, аднак цвёрдасць заходнебеларускага хлопца падчас допытаў захавала яму жыццё. У выніку Рапацэвіч быў прысуджаны да 15 гадоў пазбаўлення волі ў ГУЛАГу.

Хутка беларуса накіравалі ў лагер у Свярдлоўскай вобласці.

## З лагера на фронт

12 жніўня 1941 года быў выдадзены Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прадастаўленні амністыі польскім грамадзянам, якія ўтрымліваліся ў зняволенні на тэрыторыі СССР, паводле якога ўсе польскія «ваеннапалонныя» і грамадзянскія асобы, якія знаходзіліся ў савецкіх лагерах, турмах ці ў спецпасяленнях, былі вызвалены. У верасні 1941 года Іван Рапацэвіч атрымаў свабоду, і зімой таго ж года Свярдлоўскім гарадскім вайсковым камісарыятам ён быў прызваны ў Чырвоную Армію.

У складзе савецкага войска беларус з Крэва прайшоў усю вайну. 23 сакавіка 1945 года Іван Мікалаевіч быў прадстаўлены да ўзнагароджання медалём «За Адвагу». «У баі на поўдзень ад мястэчка Яўнпілс Латвійскай ССР камандзір гарматы 2-й батарэі чырвонаармеец Рапацэвіч Іван Мікалаевіч знішчыў два зянітных кулямёты, да 10 жаўнераў і афіцэраў праціўніка, чым забяспечыў паспяховае выкананне баявога задання», — адзначалася ў ўзнагародным лісце. Акрамя гэтага жаўнер атрымаў некалькі медалёў за вызваленне гарадоў.

«Пасля вайны, калі я вярнуўся дадому, да мяне кожны дзень прыходзілі сваякі тых, хто пайшоў праз мяжу, і пыталі пра лёс сваіх. Але па сённяшні дзень пра іх нічога не вядома. Я лічу, што яны расстраляныя ў Курапатах. Увогуле, калі праверыць усе нашы мясцовыя вёскі, то можна вызначыць тысячы людзей, якія тады перайшлі савецка-польскую мяжу і больш не вярнуліся», — адзначаў ветэран.

# «Пад штандар бел-чырвона-белы»




**Па гарызанталі:** 2. «Пад ... бел-чырвона-белы, // Гартуйся, рацъ, адважна, смела!». З верша «Покліч» Уладзіміра Жылкі — беларускага паэта, крытыка, перакладчыка, які нарадзіўся 120 гадоў таму, 27 траўня 1900 года. 6. ... Веснавы. Прысвятак беларускага народнага календара, які адзначалі 22 траўня. 7. Усебаковы разгляд новага літаратурнага твора. 9. Сталіца заходнееўрапейскай краіны, дзе Уладзімір Жылка ў 1923–1926 гадах жыў і вучыўся ва ўніверсітэце на гісторыка-філалагічным факультэце. 11. Мокра на Макея (25 траўня) — і ... не прасушыць (прыказка). 12. Музычны твор. 15. «Маці- ... радзіла іх // Ад першых пацалункаў сонца». З верша Уладзіміра Жылкі «Пралескі». 16. Ракавіна ў металічным ліцці. 19. Тое, што і нітка. 20. Чыя ... , таго і праўда (прыказка). 21. Горад у Кіраўскай вобласці (Расія), куды быў высланы сталіністамі Уладзімір Жылка як «вораг народа»; у гэтым горадзе ён і памёр ад сухотаў. 25. Што край, то абычай, што старана, то ... (прыказка). 26. Маленькае хвойнае дрэва. 27. Лячэбна-прафілактычныя мерапрыемствы па аздараўленні. 12 траўня — Міжнародны дзень медыцынскіх сясцёр.

**Па вертыкалі:** 1. Смуглы мужчына (размоўнае). 2. Крок. 3. «Нашая ... // Сейбіт зары // Сее маўклівa // Сум аб дабры». З паэмы Уладзіміра Жылкі «Уяўленне». 4. Месяц май — і пад кустом ... (прыказка). 5. «...», «Маладняк». Літаратурныя аб'яднанні, у якіх удзельнічаў Уладзімір Жылка. Наведваў ён і «Беларускую хатку», дзе пасябраваў з Янкам Купалам і Змітраком Бядулем. 8. Столевая дошка. 10. Адзін з псеўданімаў Уладзіміра Жылкі. 13. «Сягоння Сёмуха, сягоння ... вёскі, // І весялейшае не знойдзецца пары». З верша Жылкі «Сёмуха». Свята Сёмуху (Тройцу) беларускія каталікі сёлета адзначаюць 31 траўня, а праваслаўныя — 7 чэрвеня. 14. «І ліецца хваляй ... — // Ціхі ясны гімн вясне». З верша Максіма Багдановіча «Па-над белым пухам вішняў». 17. Самыя прыгожыя ... — бландзінкі, самыя палкія — брунеткі, а самыя адданыя — сівыя (прымаўка); Міжнародны дзень бландзінак адзначаецца 31 траўня. 18. Навуковая праца. 22. Жаба голас падала — сей авёс, а як паявяцца камары — сей ... (прыкмета). 23. «І млее сэрца ў ... вясновы, // І закаханым не заснуць». З верша Наталлі Аксёнчык «О, май — пара кахання!» 24. «Красуня вясна ў бела-чырвоным убранні. // Красуня вясна чароўная ... кахання». З верша Уладзіміра Някляева «Красуня вясна».

**Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Красавіцкі агляд» (НЧ №15 ад 14 красавіка):**

**Па гарызанталі:** 2. Сервантэс. 5. Шпак. 8. Ліра. 9. Гаўрыла. 10. Твар. 12. Бусел. 15. Авёс. 16. Веды. 19. Звяно. 21. Язэп. 22. Масавік. 25. Быль. 26. Стос. 27. Лідарства.

**Па вертыкалі:** 1. Жальба. 3. Рог. 4. Тры. 5. Шаты. 6. Карпюк. 7. Красавік. 11. Класік. 13. Завязь. 14. Радыяцыя. 17. Альянс. 18. Полька. 20. Эпас. 23. Суд. 24. Кіт.

# БагатаДата

**Джазавы музыка, якога ў свеце называлі «другім пасля Луі Армстранга», быў Заслужаным артыстам Беларусі. А ў 1975 годзе напрыканцы траўня пачалася вядомасць нашых БелАЗаў. Што яшчэ цікавага адбылося ў гэтыя дні ў мінулым?**

## 23 траўня

**1995.** З фасада Дома ўраду на плошчы Незалежнасці ў Мінску знялі герб «Пагоня». Гэта адбылося ў выніку рэферэндуму 14 траўня, калі на ініцыятыву Аляксандра Лукашэнкі была зменена дзяржаўная сімволіка. Пад «Пагоняй» апынуўся герб БССР, на які яе ў свой час размясцілі.

## 24 траўня

**Дзень славянскага пісьменства і культуры. Еўрапейскі дзень паркаў.**

## 25 траўня

**Міжнародны дзень зніклых дзяцей.**

**1925.** У вёсцы Рудня Стаўбунская Веткаўскага раёна на Гомельшчыне нарадзілася спявачка Станіслава Гулевіч. Салістка Тэатра оперы і балета, а таксама Белдзяржфілармоніі.

**1930.** У вёсцы Хотліна Чашніцкага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся палітычны дзеяч Мікалай Дземянцей. Старшыня Вярхоўнага Савета БССР у 1990–1991 гадах перад Станіславам Шушкевічам. Дзядзька старшыні партыі «Справядлівы свет» Сяргея Калякіна.

## 26 траўня

**1910.** У Берліне нарадзіўся джазавы музыка (трубач-віртуоз) і кампазітар Эдзі (Адольф) Рознер. Яго называлі «другім пасля Луі Армстранга». Заслужаны артыст Беларусі. З 1940 года ачольваў Дзяржаўны джаз-аркестр БССР у Мінску, куды ён пераехаў з Польшчы пасля пачатку Другой сусветнай вайны. У 1946 годзе Рознер падпаў пад рэпрэсіі, а аркестр быў расфарміраваны. Пасля рэабілітацыі ў 1954 годзе кіраваў эстраднымі аркестрамі Масквы, а таксама кароткі час перад эміграцыяй у Германію ў 1970-х — аркестрам Гомельскай абласной філармоніі.

## 27 траўня

**Сусветны дзень барацьбы з рассеяным склерозам** (адзначаецца ў апошнюю сераду траўня).

**1900.** У вёсцы Макашы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся паэт Уладзімір Жылка. Жыў і працаваў у Мінску, Вільні, Празе, дзе таксама вучыўся ва ўніверсітэце як стыпендыянт тамтэйшага ўраду. Адтуль у 1926 годзе прыехаў у Мінск на акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу. І, вырашыўшы прыняць савецкае грамадзянства, застаўся. Улетку 1930-га арыштаваны ДПУ па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны на 5 гадоў ссылкі, якую адбываў ва Уржуме Кіраўскай вобласці Расіі. Там і памёр праз сухоты. Пахаваны на мясцовых могілках. А марыў знайсці спачын у Вільні. У Жылкі ёсць цыкл вершаў, прысвечаны гэтаму гораду. Менавіта яму належаць радкі «О, Вільня, крывіцкая Мека!».

**1940.** У Асіповічах нарадзілася эстрадная спявачка, салістка цягам 30 гадоў Дзяржтэлерадыё Беларусі Тамара Раеўская. У яе рэпертуары — каля 200 песень (напрыклад, «Люблю цябе, Белая Русь», «Калыханка маме»).

## 28 траўня

**1960.** У Жодзіне нарадзіўся пісьменнік Алесь Аркуш. Стваральнік у 1990-я гады Таварыства вольных літаратараў, выдавец літаратурнага альманаха «Калоссе», заснавальнік прэміі «Гліняны Вялес». Аўтар тэкстаў песень рок-гурта «Мясцовы час» і гімна Полацка.

## 29 траўня

**Сусветны дзень здаровага стрававання.**

**1885.** У Гродне пачаўся вялізны пажар, які скончыўся толькі 1 чэрвеня. Была спалена большая частка старога горада. Усяго агонь знішчыў 875 дамоў. Пажар пачаўся раніцай, таму яго ахвярамі сталі толькі некалькі чалавек.

**1945.** У пасёлку Копысь Аршанскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся гісторык, палітолаг і выдавец Аляксей Кароль. Адзін з заснавальнікаў у 1990-я гады Партыі народнай згоды, тады ж выдаваў газету «Згода», быў галоўным рэдактарам газеты, якую вы цяпер чытаеце, — «Новы Час».

**1975.** На Беларускім аўтазаводзе была пачатая вытворчасць найбуйнейшага ў СССР грузавіка «БелАЗ-7520». Яго грузападымальнасць была 110 тонаў. З таго часу самазвалы-гіганты з Жодзіна і сталі шырокавядомымі.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 851

Падпісана да друку 22.05.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.